Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!



# Літаратура і Мастацтва

ШТОТЫДНЁВІК

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 11 мая 1990 г. № 19 (3533) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## *Дэпутацкі клуб «ЛіМа»*

**На працягу некалькіх месяцаў на старонках нашага штотыднёвіка працаваў «Выбарчы клуб «ЛіМа». Публікацыі гэтай рубрыкі мелі, мяркуючы па рэдакцыйнай пошце, значны рэзананс.**

**Спадзяёмся, што цікавасць чытачоў выкліча і новая рубрыка—«Дэпутацкі клуб», якую мы адкрываем сёння, напярэдадні першай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР дванаццатага склікання.**

# ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ПЛЮС...

### Дыялог народных дэпутатаў БССР прафесара Станіслава ШУШКЕВІЧА і журналіста Сяргея НАВУМЧЫКА

**Сяргей НАВУМЧЫК.** Год назад вы сядзелі ў Крамлёўскім Палацы з'ездаў як народны дэпутат СССР, а мы—перад тэлеэкранамі, і першыя ўражанні—ва ўсякім разе, эмацыянальныя — адпавядалі тагачаснаму напалу перадвыбарчай барацьбы. Цяпер і выбаряна, як нам паведамілі, збіраецца. Мяркую, што любое аб'яднанне народных дэпутатаў мае права на існаванне. Але канферэнцыю нам давядзецца праводзіць у Палацы мастацтваў 12 мая—і то без гарантыі, што збяруцца ўсе дэмакратычныя дэпутаты. А такіх, па падліках выбарчай камісіі БНФ, крыху болей за шэсцьдзесят...

шчыка на ўчастак і півам не зацягнеш, і ў нас, у дэпутатаў, настрой не надта бадзёры.

Не хочацца пачынаць гаворку з непрыемнага, але... Як вы ведаеце, група дэпутатаў Вярхоўнага Савета ўтварыла блок «Дэмакратычная плынь» і звярнулася да кіраўніцтва Прэзідыума з просьбай правесці арганізацыйную канферэнцыю ў Доме ўрада. І вось нядаўна атрымалі адказ. Намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР У. Мікуліч лічыць, што правядзенне канферэнцыі немэтазгодна, «паколькі падобнае мерапрыемства не прадугледжана рэгламентам Вярхоўнага Савета і іншымі заканадаўчымі актамі». Паведамляецца, што Прэзідыум «прадугледзеў стварэнне савета прадстаўнікоў груп народных дэпутатаў БССР, выбраных ад тэрытарыяльных акруг і грамадскіх арганізацый». Але, выбачайце, падобны «савет» таксама не прадугледжаны рэгламентам. Роўна як не прадугледжаны заканадаўчымі актамі сход партыйнай групы, а ліках выбарчай камісіі БНФ, крыху болей за шэсцьдзесят...

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ.** Падрыхтоўку да сесіі Прэзідыум Вярхоўнага Савета пачаў па схеме: мы тут падумаем і распрацуем усё тое, за што вам, дэпутатам, належыць прагаласаваць. Інакш і не магло быць у нашай сітуацыі. Група нядаўна абраных дэпутатаў паспрабавала планы апарату парушыць і падрыхтаваць альтэрнатыўныя праекты. Загартаваны ў барацьбе з ініцыятывай, апарат фармальна падтрымаў прапанову, але паспрабаваў «разбавіць» ініцыятыўных сабе падобнымі і накіраваць іх работу па шляху ўдасканалення ўсё тых жа апаратных прапаноў.

Ініцыятары фармальна атрымалі і памяшканне для работы, але штовечар павінны былі шукаць крэслы па ўсіх адчыненых пакоях Дома ўрада, каб больш-менш уладкавацца. Яны трацілі шмат часу на атрыманне праектаў прапанаваных дакументаў і г. д.

(Працяг на стар. 2—3).









## СВЯТА НА БЕЛАЙ ДАЧЫ

Гэты будынак у энцыклапедычных даведніках пазначаны як мінская гарадская сядзіба, помнік архітэктуры другой паловы XIX стагоддзя. Атрымаў ён назву сваю і ў народзе: Белая дача.

І вось, нарэшце, гэты будынак на вуліцы Казінца, 78 займеў свайго гаспадара: 6 мая тут адкрыўся Цэнтр беларускага фальклору. Слова на яго адкрыцці сказалі народны дэпутат БССР, паэт А. Вярцінскі і акадэмік АН БССР М. Бірыла, а таксама свяшчэннікі Мінскага кафедральнага сабора айцец Георгій і айцец Павел.

Адкрыццё Цэнтра супала з правядзеннем тут жа, на Белай дачы, народнага свята «Юр'я». Удзельнічалі ў ім фальклорныя калектывы «Вязынка» Мінскага маторнага завода, «Валошкі» Палаца культуры чыгуначнікаў, «Жаваронкі» з саўгаса «Міханавічы» Мінскага раёна (рэжысёр свята Ж. Васанская).

Ініцыятыва стварэння Цэнтра беларускага фальклору належыць РНМЦ культуры. Свята адкрыла і вяла яго супрацоўніца Л. Рыжкова. На ўрачыстасці прысутнічалі міністр культуры БССР Я. Вайтовіч, намеснік міністра У. Мацвееў, дырэктар ІМЭФ АН БССР С. Марцалеў, дырэктар РНМЦ А. Лягенчанка.

Фота Ул. КРУКА.

(Пачатак на стар. 1).

Я б сказаў так: назначаны Прэзідыум быў і застаецца забяспечаным, як рэгулярная армія, а абраныя народам дэпутаты пакуль што нагадваюць партызан, якія імкнуцца аб'яднацца ў атрад.

Ну, а колькі дэпутатаў стаіць на дэмакратычных пазіцыях? Вось вы назвалі лічбу — каля шасцідзесяці... Прабачце, сёння ўсе сцвярджаюць, што яны—дэмакраты. За выключэннем, эразумела, некаторых кіруючых асоб, якія апошнім часам пачалі гаварыць, што яны—кансерватары. І гэта няблага. Можна, зразумела, называць кансерватызмам імкненне любой цаной захаваць старыя пазіцыі, а дакладней—старыя кіруючыя пасады і не цурацца любых, у тым ліку і самых антыдэмакратычных метадаў дасягнення гэтай мэты. Наіўна марыць аб папулярнасці М. Тэтчар на падставе такога «кансерватызму» (а па сутнасці — замшэлага антыдэмакратызму).

Таму я спачатку паспрабаваў бы высветліць, як кожны з нас разумее дэмакратызм. Як дысцыплінарны цэнтралізм, які навязваўся нам дзесяцігоддзямі? Альбо ў агульначалавечым разуменні, да якога мы цяпер усё болей набліжаемся? Магчыма, тыя шэсцьдзесят дэпутатаў, пра якіх вы гаворыце, менавіта такое разуменне і спавядаюць. Тут я з вамі пагаджуся, але яшчэ раз падкрэслю: антыдэмакратаў у парламенце практычна няма, бо ніхто не ішоў на выбары на антыдэмакратычнай платформе. І я лічу, што ў час работы Вярхоўнага Савета гэтага склікання дэпутаты будуць больш чуйна прыслухоўвацца да сваіх выбаршчыкаў, а іх пазіцыі будуць усё больш і больш дэмакратычнымі. Хоць за час першай сесіі цудаў, мяркую, не адбудзецца. Гэта будзе сесія-знаёмства і, магчыма, высвятленне пазіцый.

**С. Н.** Хоць ужо цяпер можна больш-менш пэўна прагназіраваць, па якіх пытаннях пойдзе размежаванне. Маю на ўвазе не адносіны да шостага артыкула альбо рэгістрацыі Народнага фронту — тут, будзем спадзявацца, асаблівых баталій наўрад ці трэба чакаць.

Ацэнім сённяшнюю палітычную і эканамічную сітуацыю як крызісную. Адзінае выйсце — радыкальная, а не палавінчатая эканамічная рэформа, увядзенне рыначных адносін без усялякіх абмежаванняў, пра што дастаткова перакануча сказаў публіцыст Сялюнін у «Літаратурцы». Але гэта значыць — рэальна паставіць крыж на ўладзе партапарату. Бо не будзе неабходнасці ў нейкай іншай, акрамя рынку, кіруючай сіле. Дык вось, асабіста для мяне сённяшні крытэрый «прагрэсіўнасці» палітыка—у яго здольнасці адмовіцца ад ідэалагічных догмаў, якія безнадзейна сябе скампраметавалі, і вярнуцца на пазіцыі здаровага сэнсу. Ці шмат хто з нашых парламентарыяў — першых сакратароў, старшынь калгасаў—пойдзе на гэта? Хочацца, вядома, верыць у лепшае, але прыгадваюцца лозунгі перадвыбарчай кампаніі: бі кааператараў, не — прыватнай уласнасці, калгасам — другое дыханне... Адным словам, падстаў для аптымізму небагата.

**С. Ш.** Дазвольце зноў жа не пагадзіцца з вашым падыходам, хоць ён, безумоўна, мае права на існаванне. Праблема, мяркую, у іншым — менавіта ў метадах кіравання. Адзін метад — лічыць усіх натоўпам і, адпаведна, распрацоўваць спосабы кіравання натоўпам. Вось, маўляў, вы кінецеся ў рынак, а там — дзікія цэны, кааперацыя, воўчыя законы, прыватная ўласнасць... Другі — метад кіравання народам. Не абапіраючыся на шырокія масы, нельга рэалізаваць ніякую сістэму кіравання — ні сацыялістычную, ні капіталістычную. І вось тут узнікае пытанне: наколькі свядома людзі будуць дзейнічаць у сённяшняй сітуацыі, сапраўды, надзвычай складанай? Народ сёння ні ў што не верыць. Ён ужо наслухаўся казак пра перабудову, ён ужо нагледзеўся на «дэмакратычныя» выбары, яму ўжо ўвялі ў вушы, што рэспубліканскі закон не павінен быць больш дэмакратычны, чым саюзны... Між тым, узровень жыцця імкліва падае. Ніякая лінія актыўна не праводзіцца, ідзе толькі разбурэнне застарэлай канцэпцыі. Скажыце, няўжо нашы эканамісты, той жа Шаталін, жылі за жалезнай заслонай і не бачылі, як развіваюцца іншыя краіны? Напэўна, і на калгасным прынцыпе можна арганізаваць асобныя гаспадаркі. Але чаму якуцкім аленяводам і ўзбекскім бавоўнаводам неабходна кіравацца аднолькавымі канцэпцыямі? У нашым новым парламенце трэба змагацца за сапраўдны суверэнітэт рэспублікі, за беларускі падыход, за ўлік уласных рэалій і г. д.

**С. Н.** Тут гэтаксама наўрад ці можна чакаць аднадушша, бо для адных дэпутатаў ужо само слова «суверэнітэт» гучыць як прыемная мелодыя, а на іншых уздзейнічае, як чырвоная хустка на быка.

Ёсць думка, што менавіта літоўскія падзеі 11 сакавіка адыгралі ракавую ролю ў выніках другога тура галасавання: людзі пабаяліся даць мандаты народафронтаўцам. Калі так, то ідэя самавызначэння ў нашым народзе сапраўды непапулярная (хоць, здаецца, ніякіх грунтоўных даследаванняў на гэты конт не вялося). Дзесяцігоддзі вынішчэння нацыянальнай свядомасці зрабілі сваю справу. Толькі чаго тут болей: перакананага нежадання альбо псіхалагічнай боязі? У нас многія разумеюць суверэнітэт надзвычай прымітыўна: як імгненны разрыў з СССР, і далей — поўную ізаляцыю. Кожнае здаровае дзіця ў нармальнай сям'і рана ці позна выбірае самастойны шлях, але ж не рве адносін з бацькамі, братамі і сёстрамі. З цягам часу пачуцці роднасці нават мацнеюць... Сёння ж наогул шчыльнасць кантактаў вызначаецца не палітычнымі і геаграфічнымі ўмовамі: парыжанін, пры жаданні, можа хоць заўтра апынуцца ў Нью-Йорку. А паспрабуйце вы ўзяць білет да Тбілісі...

Незалежнасць — ці не самае расплывістае паняцце, і кожны разумее яго па-свойму. У платформе «Дэмакратычнай плыні» яно, прынамсі, сфармулявана наступным чынам: «Мы адстойваем ідэі незалежнасці, дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі, бачым у гэтым найважнейшую палітычную мэту, што стаіць перад грамадствам...»

**С. Ш.** Для мяне суверэнітэт — найперш паняцце аб уласнасці. Давайце мы пакуль што вылучым эканамічны суверэнітэт, хоць, як вы разумееце, без палітычнага ён нерэальны. Народ надзяліў сваіх выбраннікаў правам кіраваць народнай уласнасцю, дзяліць даход. А цяпер давайце пойдзем па такой схеме: жадаючы зрабіць гаспадарку больш эфектыўнай, частку функцый рэспубліка мае права перадаць цэнтру (напрыклад, армію, транспарт, сувязь). А цяпер мы хочам аздаравіць гіганцкі арганізм, у якім цыркулюе атручаная кроў — неканвертуемые грошы. Я не ўяўляю сабе аднаўлення эканомікі без цвёрдай фінансавай сістэмы. У маштабах Саюза нічога радыкальнага не робіцца, значыць, магчымае выйсце — увядзенне канвертуемай рэспубліканскай валюты.

**С. Н.** Але тады мы павінны прад'явіць цэнтру прэтэнзіі на ўласную долю залатога запасу. Свае ўмовы, да таго ж, дыктуе Чарнобыль. Тут наогул дваістая сітуацыя. З аднаго боку, без дапамогі Саюза не абысціся (хоць, каб не нашы гіганцкія пастаўкі ў саюзны фонд, можна было б яшчэ паспрачацца),—але наш агульнасаюзны ўзровень тэхналогіі вытворчасці, відавочна, не адпавядае унікальнасці найскладанейшай праблемы.

**С. Ш.** Чарнобыль — гэта ў нечым паўтарэнне знаёмых нам сітуацый. Прыгадаем: на вайне мы мелі не самую лепшую тэхніку, не хапала зброі, а таму разлічваліся чалавечымі жыццямі. І цяпер — гэтаксама. Ліквідатары, прызваныя ў армію, ішлі на рэактар і не ведалі, чым ім гэта пагражае. У многіх з іх, выбачайце, няма будучыні. Хто штурхнуў іх у гэты ўнутраны Афганістан? Прымітывізм кіраўніцтва. «Я начальнік — ты дурань». Мы маем бездань упраўленцаў без кваліфікацыі ўпраўленцаў.

**С. Н.** Асаблівa на Беларусі. Ну, не хапае смеласці, баяліся з крэсламі развітацца, дык хоць бы розумам бралі. На нядаўнім «чарнобыльскім» мітынгу нават віцябляне, якія, як лічылася, жывуць у абсалютна чыстай зоне, у катэгарычнай форме выказалі недавер рэспубліканскаму кіраўніцтву. Цяпер выяўляецца, што на Віцебшчыну ішлі забруджаныя прадукты, радыяцыя распаўсюджвалася. І ўжо не здзіўляе рашучасць, з якой удзельнікі мітынгу, запатрабавалі прыезду ў зону бедства М. Гарбачова. Сапраўды, у гадавіну трагедыі Прэзідэнту варта было б наведаць рэспубліку, якая найбольш пацярпела.

**С. Ш.** Я вельмі паважаю рэзалюцыі мітынгаў, але Прэзідэнт, найперш, павінен мець дасканалую праграму выратавання насельніцтва. Чаго не хапае ў цяперашняй праграме? Для любога мерапрыемства існуюць дакладныя крытэрыі эфектыўнасці, у дадзеным выпадку гэта калектыўная доза абпраменьвання. Ці то дзесяць чалавек атрымала па аднаму бэру, ці то сто чалавек атрымалі па 0,1 бэра — знішчальныя вынікі радыяцыі праявяцца аднолькава ў сярэдніх лічбах. Дык вось, наколькі будзе зменшана калектыўная доза, дзякуючы распрацаванай праграме? З пункту гледжання народа, папуляцыі, эфектыўнасць гэтага мерапрыемства нулявая. Нам трэба ставіць ультыматыўныя ўмовы.

**С. Н.** І калі вярнуцца да кампетэнтнасці кіраўніцтва... Мяркую, што ўжо на першай сесіі мы абавязаны выканаць абяцанне, якое ледзь не кожны дэпутат даваў выбаршчыкам: стварыць парламенцкую камісію па расследаванні дзейнасці адказных асоб, вінаватых ва ўтойванні інфармацыі аб Чарнобылі і марнатраўстве дзяржаўных сродкаў...

**С. Ш.** У нас звычайна ствараюць камісіі, калі ўсе галоўныя дзейныя асобы і выканаўцы альбо ў адстаўцы, альбо ў магіле. Прыклад — камісія па Афганістане. Баюся, каб і тут так не было: пойдзе сёй-той з Палітбюро, тады і пачнецца размова. Але, заўважце, камісія па Тбілісі назвала канкрэтныя імёны, але нешта не відаць, каб Ягор Кузьміч заліўся чырванню і падаў у адстаўку...

**С. Н.** Наогул, складаецца ўражанне, што беларускі ўрад вырашылі крышачку «падчысціць»... Пайшлі Кавалёў, Улашчык. Мне здаецца, не зашкодзіла б заслухаць на першай сесіі справаздачу цяперашняга складу Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Саўміна аб палітычнай, эканамічнай і экалагічнай сітуацыі, якая склалася ў рэспубліцы не без іх актыўнага ўдзелу. Хоць, праўда, усе мы цудоўна ведаем, што не яны сапраўдныя арганізатары «ўсіх нашых перамог».

На днях хацеў навесці ў Міністэрстве замежных спраў некаторыя даведкі. Але вартаўнік мяне не прапусціла. Яна падпарадкоўваецца ведамаснай інструкцыі, у якой запісана: «у любы час дня і ночы прапускаць сакратароў ЦК КПБ»... Відавочна, што сама па сабе адмена шостага артыкула Канстытуцыі не здолее разбурыць адпрацаваныя дзесяцігоддзямі механізмы партакратычнай улады. Узяць хоць бы той самы друк. Ці не парадокс гэта, што дваццаць народных дэпутатаў рэспублікі не ў стане змясціць заяву ва ўласным жа друкаваным органе? Не думаю, каб нам вельмі лёгка ўдалося перадаць абласны і раённы друк ва ўладу Саветаў. Дарэчы, усе нашы «раёнкі» фінансуюцца Дзяржкамвыдам з народных грошай, і райкомы маюць на іх такое ж юрыдычнае права, як, скажам, і таварыства філатэлістаў...

**С. Ш.** Узнікае сур'ёзная праблема аўтарытэту партыі. Калісьці, убачыўшы на палатне класіка п'янага папа на ганку, падумаў: божа, няўжо пасля гэтага царква здолее вярнуць веру народа? Але ж, як бачыце, вяртае, і паспяхова! Ці здольна партыя зрабіць такі ўчынак? Давайце задумаемся. Ва універсітэце, дзе я працую, у партыю пераважна прымалі не горшых людзей. Не думаю, каб і астатнія партарганізацыі якасна ад нас адрозніваліся. Многія камуністы сумленна жылі і працавалі, але яны ў значнай ступені былі адурманеныя... Я лічу, што без пакаяння з боку КПСС аднаўленне яе аўтарытэту немагчыма. Як камуніст я ўпэўнены, што «Дэмакратычная платформа КПСС» — вычарпальная, абагульняючая фармуліроўка, таго, што адбылося ў партыі і з чаго трэба шукаць выйсце.

**С. Н.** Тым не менш, на прадстаўнікоў «дэмплатформы» пачаліся ганенні — народнага дэпутата БССР С. Папкова з партыі выключылі. У Віцебску сваім партбілетам паплаціўся састаршыня групы клуба «За

# ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ПЛЮС...



Сяргей НАВУМЧЫК



Станіслаў ШУШКЕВІЧ

# ВЕЧНАЯ КРЫНІЦА

**Завяршыліся вечары аўтэнтычнага фальклору, якія на працягу трох месяцаў праходзілі ў Доме літаратара. Кожная вобласць і горад Мінск мелі права на адну вечарыну. Тут жа працавалі выстаўкі-продажы твораў народных умельцаў.**

**Пра своеасаблівыя «фальклорныя» агледзіны карэспандэнт «ЛіМа» гутарыць з начальнікам упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры БССР Тадэвушам СТРУЖЭЦКІМ.**

— Тадэвуш Іванавіч, якое ваша ўражанне ад праведзенага мерапрыемства?

— **Нагадаю, што вечары аўтэнтычнага фальклору «Глыбокія крыніцы» былі арганізаваны Міністэрствам культуры БССР, Дзяржтэлерадыё і Саюзам пісьменнікаў Беларусі ў мэтах ажыўлення фальклорнай спадчыны беларускага народа і яе прапаганды сродкамі сцэны, друку, радыё і тэлебачання. Невыпадкова была выбрана і пляцоўка Дома літаратара — тут ужо сфарміравалася кола прыхільнікаў фальклору, пастаяннымі гледачамі былі многія пісьменнікі, а для ўдзельнікаў гэта было вельмі важна. Хоць — і трэба гэта адзначыць — сцэна не заўсёды адпавядала патрабаванням для паказу фальклору, тым больш аўтэнтычнага. Якія ўражанні? Першае, што вечары былі вельмі патрэбныя і для нас, работнікаў культуры, спецыялістаў, і для сталічных гледачоў, і для саміх удзельнікаў. Другое: да нашага пакуль што яшчэ багатага і арыгінальнага фальклору трэба падыходзіць вельмі асцярожна, з веданнем справы, як гаварыў М. П. Дрынеўскі — «з чыстымі рукамі і добрым сэрцам». Гэтага якраз многім і не хапала.**

— Хачу вас злавіць на слове. На жаль, вечарыны не ўскалыхнулі мінчан — маленькая зала Дома літаратара не заўсёды была поўная. Дык ці можна лічыць тых нямногіх гледачоў «сфарміраваным колам прыхільнікаў фальклору»?

— **Канешне, гэта праблема, і праблема вялікая. Сапраўды, калі ў паўтарамільённым Мінску не знаходзіцца 150—200 чалавек аматараў фальклору, што можна гаварыць пра становішча ў нацыянальнай культуры! Памойму, мы яшчэ раз пераканаліся, што на словах гаворым пра адно, а ў жыцці дэманструем другое.**

— Якая вобласць, на вашу думку, выглядала найбольш багатай на аўтэнтычны фальклор і чаму?

— **Ведаеце, мы не ставілі такой мэты, каб абавязкова вызначаць лепшую вобласць, выдаваць канкрэтныя прызавыя месцы. Больш таго, стараліся не ўмешвацца ў кухню падрыхтоўкі, хоць да адбору некаторых калектываў і выканаўцаў падключаліся нашы вядучыя навукоўцы-фалькларысты І. Назіна, Т. Варфаламеева, В. Ліцвінка. Таму, пэўна, вечарыны і атрымаліся не падобныя адна на адну, не зрэжысіраваныя — так, як гэта і ёсць у жыцці, калі кожны рэгіён, кожная вёсачка маюць свае асаблівасці ў спевах, танцах і музыцы. Канешне, нам хацелася ўбачыць перш за ўсё некрануты аўтэнтычны фальклор, які найбольш поўна характарызуе той або іншы куток рэспублікі, сустрэцца з сапраўднымі яго носьбітамі. І трэба сказаць, што ў кожнай вобласці — дзе больш, дзе менш — мы гэта ўбачылі. Парадавалі народныя музыкі з вёскі Раманавічы і танцавальны калектыў з вёскі Ацьмінава Навагрудскага раёна. Брэсцкая вобласць выгадна адрознівалася ад іншых багатымі адметнымі нацыянальнымі строямі — нагадаем сапраўдныя скарбы з куфраў дзівосных бабуль Кобрынскага раёна. А як зграбна, элегантна і высакародна трымаліся ў іх вясковыя мадонны!**

**Адпаведныя былі ў іх і разнастайныя вясновыя, жніўныя, дажыначныя, вясельныя і рэкруцкія песні. Міншчыну прадстаўляў ансамбль «Коласаўскія землякі» —аднавяскоўцы вялікага паэта, якія паставілі сваёй мэтай прапагандаваць яго мастацкую спадчыну. Фальклорна-этнаграфічны калектыў «Прасніца» з Глыбоцкага раёна паказаў старадаўні абрад «Вяселле Цярэшкі». Там жа мы пачулі яшчэ раз і знакамітых музыкаў Мацкевічаў з Груздава Пастаўскага раёна. Магіляўчане пайшлі іншым шляхам: узнавілі гісторыю ўзнікнення і геаграфію пошукаў танцаў і песень — і атрымалася вельмі цікава.**

**А ядналі ўсе вечарыны выставы народных майстроў.**

— Ці застаўся аўтэнтычны фальклор у горадзе Мінску?

— **На гэтае пытанне цяжка адказаць адназначна. Канешне, вытокі беларускага фальклору спрадвеку знаходзіліся ў вёсцы і менавіта вёска была багацейшай і на яго носьбітаў. Але ж гэта не пярэчыць таму, што гэтыя носьбіты могуць жыць і ў горадзе, што сталічныя калектывы не могуць вывучаць і прапагандаваць народную спадчыну. Вечарына Мінска гэта і пацвердзіла. І ансамбль «Неруш», і фальклорна-этнаграфічны гурт «Дзіва», і дзіцячы ка-**

дэмакратычныя выбары» Б. Хамайда. Міжволі думаеш: калі партыя «ачышчаецца» ад такіх, далёка не самых горшых сваіх прадстаўнікоў, ці не апынецца яна ў хуткім часе ў вельмі незайздросным становішчы? На памяці нядаўнія падзеі ва Усходняй Еўропе... Але гісторыя можа навучыць толькі таго, хто сам гэтага жадае і, як мінімум, не губляе адчування рэальнасці. Здзіўляе ваяўнічае непрыняцце нашым рэспубліканскім партыйным кіраўніцтвам іншай думкі, іншага меркавання. А сваіх арыгінальных канцэпцый у яго няма. Вось збіраюць напярэдадні сесіі партыйную групу і, прызнацца, узнікаюць сумненні: а ці варта ісці? Бо нічога новага там, упэўнены, не пачуеш.

**С. Ш.** Вы мяне засмучаеце. Без дыялога нічога ў нас не атрымаецца. Трэба гаварыць з гэтымі людзьмі, шукаць магчымыя агульныя пункты супрацоўніцтва. І калі гэтыя «кропкі» мы не здолеем пераўтварыць у плоскасці — то не шмат чаго дасягнем. Палітыка — гэта майстэрства магчымага.

**С. Н. На пасяджэннях «Дэмакратычнай плыні» выказваліся два пункты гледжання, прапаноўваліся два варыянты парламенцкай тактыкі. Першы: не адмаўляючыся ад галоўных прынцыпаў, шукаць кампраміс, і тады, магчыма, у нейкіх пытаннях удасца заваяваць большасць. Скажам, пры выбарах Старшыні Вярхоўнага Савета і яго намеснікаў. Але дзе гарантыя, што, увязаўшыся ў апаратныя гульні, мы не пераступім небяспечную рысу паміж кампрамісам і згодніцтвам? У апошнім нумары «Навінаў БНФ» Юрый Хадыка вызначыў такую пазіцыю як «калабарацыянізм».**

**Другі варыянт — стварэнне жорсткай апазіцыйнай фракцыі. Свядома займаць «глухую абарону», пайсці на тое, што ўсе нашы прапановы будуць забаланціраваныя,—але, тым самым, зняць з сябе адказнасць за тыя рашэнні, якія будзе прымаць Вярхоўны Савет...**

**С. Ш.** Я перакананы, што выкарыстоўваць парламент толькі як трыбуну, без спробы станоўча ўплываць на жыццё тых людзей, якія далі табе дэпутацкі мандат, — гэта, калі хочаце, несумленна. Таму ваша дзяленне парламента — «шэсцьдзесят дэмакратаў плюс кансерватары» — я скарэкціраваў бы наступным чынам: антыдэмакратаў — адзінкі, а астатнія патэнцыяльна здольныя для сумесных канструктыўных дзеянняў.

**С. Н. Зайздрошчу вашаму аптымізму.**

**С. Ш.** Разумееце, справа ў тым, што я прайшоў ужо праз зняважлівыя адносіны да меншасці (хоць яна складалася з соцень народных дэпутатаў СССР), паглядзеў, як змяняліся адносіны да Міжрэгіянальнай групы, якая, дарэчы, не стрымлівае палітычнай ініцыятывы дэпутатаў, якія ў яе ўваходзяць, і не падпарадкоўвае меншасць большасці сярод сваіх членаў, быў сведкам непапулярнасці «антыміжрэгіянальнай групы». Час ідзе, ёсць і станоўчыя змены. Трэба верыць у лепшае.

---

**лектыў «Госціца» паказалі ўменне працаваць з фальклорам.**

— Наколькі вядома, мерапрыемствы не былі прыўрочаны да нейкай падзеі, як гэта адбывалася раней.

**— Ідэя правядзення вечароў узнікла ў міністэрстве, калі мы распрацоўвалі мерапрыемствы да 500-годдзя з дня нараджэння Ф. Скарыны. Навукоўцы папракалі нас, што ў такія тэрміны нельга вырашыць такую задачу. Але, як бачыце, мы з ёй справіліся. Безумоўна, не ўсё атрымалася, нешта паказанае часам было не аўтэнтычным фальклорам, але на памылках вучацца. Калі ж гаварыць аб прыярытэтах, то для міністэрства і яго органаў на месцах на бліжэйшую перспектыву мы ставім задачу рэалізацыі праграмы «Спадчына». Плануем таксама праводзіць і вечарыны аўтэнтычнага фальклору.**

**І апошняе. Правядзенне мерапрыемства яшчэ раз паказала слабую падрыхтаванасць многіх нашых кадраў, у тым ліку і спецыялістаў навукова-метадычных цэнтраў.**

---

*Інтэрв'ю ў нумар*



# СТРАТЭГІЯ ГУМАНІЗМУ

**29 снежня мінулага года «ЛіМ» апублікаваў матэрыялы рэдакцыйнага «круглага стала», прысвечанага правам чалавека. У тым, што размова атрымалася прынцыповай і разам з тым дзелавой, канструктыўнай — заслуга яго ўдзельнікаў, у тым ліку і загадчыка кафедры БДУ імя У. І. Леніна, доктара юрыдычных навук, прафесара Аляксандра Абрамовіча.**

**Сёння мы рады магчымасці павіншаваць вучонага-правазнаўцу з выбраннем яго членам Камітэта канстытуцыйнага нагляду СССР. (Пастанова Вярхоўнага Савета СССР аб выбранні членаў Камітэта нядаўна апублікавана ў друку).**

**З Аляксандрам Міхайлавічам АБРАМОВІЧАМ гутарыць наш карэспандэнт.**

**— Ідэя стварэння Камітэта канстытуцыйнага нагляду з самага пачатку многімі была ўспрынята неадназначна. Успомнім, якім няпростым аказаўся шлях рэалізацыі гэтай ідэі. Закон «Аб канстытуцыйным наглядзе ў СССР» быў прыняты толькі на II З'ездзе народных дэпутатаў, пасля гарачых дэбатаў. На З'ездзе таксама быў выбраны старшыня Камітэта канстытуцыйнага нагляду і яго намеснік. І вось цяпер вядомы імёны 19 членаў Камітэта (усяго ж іх будзе 25).**

**Дзеля чаго патрэбны новы прававы інстытут? У Законе пра гэта сказана так: «Канстытуцыйны нагляд у СССР заснаваны ў мэтах забеспячэння адпаведнасці актаў дзяржаўных органаў і грамадскіх арганізацый Канстытуцыі СССР, канстытуцыям саюзных і аўтаномных рэспублік, аховы канстытуцыйных правоў і свабод асобы, правоў народаў СССР, дэмакратычных асноў савецкага грамадства». Паўнамоцтвы і парадак дзейнасці Камітэта канстытуцыйнага нагляду таксама вызначаны законам. Аляксандр Міхайлавіч, а як гэтая дзейнасць будзе выглядаць на практыцы?**

— Адразу хачу сказаць, што рэгламент работы Камітэта нам яшчэ толькі прадстаіць прыняць. Аднак парадак і формы нашай дзейнасці ў цэлым вызначаны. Сакратарыят Камітэта, у якім працуюць некалькі дзесяткаў спецыялістаў высокай кваліфікацыі будзе рыхтаваць неабходныя матэрыялы. Далей, для таго, каб рашыць, ці ёсць неабходнасць выносіць якое-небудзь спрэчнае пытанне на разгляд Камітэта, могуць праводзіцца слуханні. На іх будуць выклікацца прадстаўнікі зацікаўленых дзяржаўных органаў. І слуханні, і разгляд пытанняў на Камітэце будуць публічнымі. А вось прымаць заключэнне Камітэт будзе на закрытым пасяджэнні, каб выключыць спробы ўздзеяння на яго членаў.

**— У гэтым ёсць нейкае падабенства з работай суда...**

— Так. Але гэта толькі падабенства. Справа ў тым, што ў адрозненне, скажам, ад канстытуцыйнага суда, які ёсць у некаторых краінах і рашэнні якога носяць абавязковы характар, наш Камітэт як орган нагляду не мае права скасоўваць тыя або іншыя акты. Наша права і абавязак—даць заключэнне аб адпаведнасці або неадпаведнасці прававых актаў Асноўнаму Закону. Мы можам прыняць да разгляду прававы акт толькі па даручэнні З'езда народных дэпутатаў СССР, або па прапановах не менш як адной пятай народных дэпутатаў СССР, Старшыні Вярхоўнага Савета СССР, вышэйшых органаў дзяржаўнай улады саюзных рэспублік. У некаторых выпадках—па прапановах Вярхоўнага Савета СССР, яго палат, пастаянных камітэтаў і камісій, Савета Міністраў СССР і іншых органаў дзяржаўнай улады і агульнасаюзных органаў грамадскіх арганізацый, якія ўказаны ў законе.

**— У пошце нашай рэдакцыі, як і многіх іншых, шмат скарг. Людзі скардзяцца на несправядлівасць адміністрацыі, судовых органаў і г. д. Мы ведаем, колькі такіх людзей звяртаюцца па дапамогу і да народных дэпутатаў, аднак і яны нярэдка нічым рэальна не могуць дапамагчы. А што дасць простым грамадзянам Камітэт канстытуцыйнага нагляду?**

— Зварот грамадзян наш Камітэт не разглядае, інакш яго работа была б паралізавана. Тым не менш, яны будуць вывучацца, а на іх падставе—рабіцца канкрэтныя прапановы. Аднак умешвацца ў дзейнасць дзяржаўных органаў, судоў, адміністрацыі мы не маем права. Больш таго, па закону члены Камітэта не маюць права публічна ацэньваць той або іншы акт, які разглядаецца Камітэтам.

Разам з тым, уся дзейнасць Камітэта канстытуцыйнага нагляду, лічу, павінна спрыяць стварэнню прававой дзяржавы, у якой рэальна будуць забяспечаны правы чалавека. Гуманізм, маральны падыход да ацэнкі законаў, на маю думку, павінны вызначаць дзейнасць Камітэта. Кожны закон трэба разглядаць перш за ўсё з пункту гледжання адпаведнасці яго гуманістычным прынцыпам.

Другі важнейшы прынцып, які трэба ўлічваць, — прынцып сацыяльнай роўнасці. Маю на ўвазе не ўраўнілаўку, эгалітарызм, а прынцып справядлівага размеркавання даходаў па працы. Пры разнастайнасці форм уласнасці, якую мы нядаўна ўзаконілі, неабходна пазбягаць як эксплуатацыі чалавека чалавекам, так і эксплуатацыі чалавека дзяржавай, што не менш небяспечна. Дзяржава павінна праводзіць палітыку разумнага, збалансаванага падаткаабкладання, якая б стымулявала працоўную ініцыятыву і, разам з тым, стрымлівала канцэнтрацыю звышпрыбыткаў у руках асобных людзей.

Яшчэ адзін найважнейшы прынцып — роўнасць правоў грамадзян незалежна ад іх расавай і нацыянальнай прыналежнасці, полу, паходжання і г. д.

Я назваў бы яшчэ такія прынцыпы ў рабоце Камітэта, як дэмакратызм, няўхільнае следаванне закону, калегіяльнасць, аб'ектыўнасць.

**— Зараз, як вядома, ідзе праца над новай Канстытуцыяй Саюза ССР. Якой у гэтай сувязі вам бачыцца роля Камітэта канстытуцыйнага нагляду і якія праблемы прававой палітыкі на сённяшнім этапе ўяўляюцца вам найбольш актуальнымі?**

— Пытанне даволі складанае. Мы дзейнічаем у рамках існуючай Канстытуцыі, і Камітэт наглядае за адпаведнасцю ўсіх прымаемых прававых актаў Асноўнаму Закону. Ці азначае гэта, што тым самым Камітэт будзе, як сцвярджаюць некаторыя, тармазіць заканатворчы працэс? Мяркую, не.

Вышэйшы орган заканадаўчай улады—З'езд народных дэпутатаў СССР—мае права ўносіць змяненні ў Канстытуцыю краіны. Таму, прымаючы законы, дэпутаты абавязаны паклапаціцца аб тым, каб нормы закона адпавядалі канстытуцыйным нормам. Прымаць жа законы, якія ідуць насуперак Канстытуцыі, нельга. Акрамя ўсяго іншага, гэта спараджае прававы нігілізм, які і без таго распаўсюджаны ў нашым грамадстве.

Тут мне хацелася б звярнуць увагу яшчэ вось на што. Ёсць меркаванне, што ў прававой дзяржаве права дамінуе над палітыкай. У нейкай меры гэта правільна. Але нельга забываць і тое вядомае палажэнне, што *закон ёсць мера* **палітычная.** Тым не менш, у прававой дзяржаве, на мой погляд, штодзённая, канкрэтная палітыка павінна праводзіцца ў рамках менавіта той нормы, якая замацавала палітычную стратэгію—г. зн. норм Канстытуцыі.

Напрыклад, у нашай Канстытуцыі цяпер замацавана роўнасць усіх форм уласнасці. Гэта азначае, што ўсе наступныя палітычныя крокі, якія будуць праводзіцца з дапамогай розных актаў на ўзроўні рэспублік, абласцей і г. д., павінны адпавядаць стратэгічнай лініі дзяржаўнай палітыкі.

Што мне ўяўляецца найбольш актуальным у палітыка-прававым плане? Па-першае—развіццё палітычнага плюралізму ў нашым грамадстве. Плюралізм, вядома, павінен быць у рамках Канстытуцыі. Але гэта зусім не азначае, што нельга крытыкаваць яе палажэнняў ці заклікаць да яе змянення. Забаронены толькі заклікі да прымусовага скасавання існуючага ладу

Важнейшае пытанне — усямернае забеспячэнне правоў і свабод асобы. Адным з прынцыповых крокаў у гэтым напрамку я лічу змяненні, якія былі прыняты Вярхоўным Саветам СССР, асобных артыкулаў Асноў крымінальна-працэсуальнага заканадаўства. Цяпер адвакат допускаецца да ўдзелу ў крымінальным працэсе не пазней як праз 24 гадзіны пасля затрымання асобы. Мне думаецца, многія яшчэ не да канца ўсвядомілі значэнне гэтага акта, які нарэшце дазволіць нашаму чалавеку адчуць значна большую прававую абароненасць.

Безумоўным з'яўляецца таксама права чалавека на свабоднае перамяшчэнне. Зараз, як вы ведаеце, рыхтуецца закон па пытаннях уезду ў краіну і выезду з яе.

Надзвычай складаны комплекс праблем звязаны з *нацыянальна-дзяржаўнай палітыкай.* Вярхоўны Савет СССР прыняў нядаўна шэраг законаў па гэтым пытанні. Справа ідзе да заключэння новага саюзнага дагавора. Мне думаецца, што СССР як саюз суверэнных дзяржаў захаваецца. Але, хачу падкрэсліць, менавіта **суверэнных** і менавіта **дзяржаў.** А для гэтага трэба, каб рэспублікам была рэальна гарантавана эканамічная і палітычная самастойнасць у вырашэнні пытанняў унутранай і знешняй палітыкі. На ўзровень жа Саюза павінен быць перададзены мінімум важнейшых пытанняў, скажам,—абарона, транспарт, магчыма, фінансы. Важна ўсвядоміць галоўнае: не Саюз дае правы рэспублікам, а саюзныя рэспублікі дэлегуюць на саюзны ўзровень пэўныя правы.

Пакуль жа размеркаванне паўнамоцтваў паміж Саюзам і рэспублікамі не адпавядае аптымальным суадносінам цэнтралізацыі і дэцэнтралізацыі не тое што федэратыўнай, але нават унітарнай дзяржавы.

**— Зразумела, што Камітэту канстытуцыйнага нагляду давядзецца працаваць у складаных умовах, і задачы перад ім стаяць вельмі сур'ёзныя. На ваш погляд, Аляксандр Міхайлавіч, члены Камітэта справяцца з гэтымі задачамі? Ці змогуць яны праявіць сваю незалежнасць, кампетэнтнасць, прафесіяналізм?**

— Члены Камітэта выбіраюцца тэрмінам на дзесяць год. Падпарадкоўваемся мы толькі Канстытуцыі СССР і ў прынцыпе незалежныя. Мяркую, праўда, што ў будучым членаў Камітэта трэба выбіраць пажыццёва. Патрэбны некаторыя іншыя ўмовы. Пакуль, напрыклад, няясна—будуць члены Камітэта пастаянна працаваць у Маскве ці, хутчэй за ўсё, большасць з іх асноўную частку часу будзе праводзіць у сваіх рэспубліках. Тым не менш, законам мы абаронены ад якога б то ні было ўмяшання ў нашу работу.

Я думаю, нам вельмі пашанцавала са старшынёй Камітэта. Член-карэспандэнт АН СССР А. С. Аляксееў—аўтарытэтны спецыяліст у галіне тэорыі дзяржавы і права. Гэта чалавек дэмакратычнай арыентацыі, надзвычай інтэлігентны, гуманны. Добра вядомы як спецыяліст у галіне права яго намеснік—доктар юрыдычных навук Б. М. Лазараў. Наколькі я ведаю, большасць членаў нашага Камітэта прытрымліваецца прагрэсіўных поглядаў. Гэта людзі кампетэнтныя і сумленныя. Усё гэта дазваляе спадзявацца, што сваю адказную місію Камітэт здолее выканаць.

У заключэнне нашай размовы я хацеў бы праз вашу газету выказаць падзяку кіраўніцтву вышэйшага органа дзяржаўнай улады БССР, усім народным дэпутатам СССР ад Беларусі, якія прапанавалі маю кандыдатуру да выбрання мяне членам Камітэта канстытуцыйнага нагляду СССР.

**— Дзякуй за гутарку.**

**Віталь ТАРАС.**

# Статут: працэс дэмакратызацыі

## *Даклад старшыні прававой камісіі Васіля ХОМЧАНКІ*

Я ўпэўнены, што ўсе пісьменнікі пазнаёміліся з праектам статута СП БССР, які быў змешчаны ў «ЛіМе», і ў многіх узніклі свае заўвагі, думкі, ацэнкі. Спадзяюся, што гэтыя заўвагі будуць выказаны тут, на з'ездзе.

Над праектам статута працавала шмат людзей, доўга і старанна.

Як вы ведаеце, першы статут СП СССР з'явіўся ўжо ў 1934 годзе, калі быў створаны Саюз пісьменнікаў СССР. Дагэтуль у СССР адзінай пісьменніцкай арганізацыі не існавала, былі розныя літаратурныя асацыяцыі, аб'яднанні, групы. Задавала тон тады асацыяцыя так званых пралетарскіх пісьменнікаў, яны лічылі сябе літаратурнымі заканадаўцамі, выразнікамі сацрэалізму. Ну, а такіх таленавітых пісьменнікаў, як Ахматава, Булгакаў, Платонаў, Прышвін, а ў нас Купала, Колас, Гарэцкі, адлучалі ад гэтага рэалізму і лічылі чужымі.

Тады, асабліва ў пачатку дваццатых гадоў, кожнае літаратурнае аб'яднанне выдавала свае часопісы, газеты і мела свой адметны творчы напрамак, бо існавала больш-менш творчая свабода для пісьменніка.

Вярхоўнаму ўладару Сталіну такая свабода мазоліла вочы. Ён і вырашыў сабраць усіх разам, у адну арцель, пад адну каманду. Каб ёю кіраваць, стварыць нешта падобнае на калгас. Тады па яго камандзе і быў створаны СП СССР, а для яго быў прыняты статут, які і дзейнічае шмат гадоў.

Цяпер, калі наш СП жыве больш за паўстагоддзе, можна вызначыць яго і плюсы, і мінусы. Многія лічаць цяперашні СП бюракратычнай установай,



якія трэба замяніць на розныя творчыя аб'яднанні. Першае такое аб'яднанне, як вядома, утварылася ў Маскве — «Апрель». Думаю, што яно і не апошняе. СП БССР, на маю думку, такі раскол не пагражае.

Усё ж, як бы ні лаялі наш Саюз пісьменнікаў, не абвінавачвалі ў бюракратызме, гаварылі аб непатрэбнасці яго, трэба, аднак, сказаць, што ён зрабіў шмат чаго карыснага і для пісьменнікаў, і для літаратуры, і даказаў неабходнасць свайго існавання.

У нас, у Беларусі, замаху на разбурэнне СП не было. Значыць, усе такой думкі, што СП патрэбен, але ў ім належыць сёе-тое ўдасканаліць. А для гэтага трэба прыняць новы статут.

Жыццё наша, асабліва ў апошні час, істотна змянілася. Пасля многіх гадоў сталінскага тэрору і крызіснага застою нарэшце прыйшоў час дэмакратыі і свабоды. На чарзе — стварэнне СССР на новых федэратыўных прынцыпах, калі рэспублікі набудуць свой сапраўдны суверэнітэт. Упэўнен, што большасць беларускага народа лічыць неабходным жыць у складзе Савецкага Саюза.

Мы і за тое, каб наш Саюз пісьменнікаў таксама быў у складзе СП СССР, але на новых, федэратыўных умовах.

Падрыхтаваць праект новага статута СП БССР было даручана прававой камісіі. Яна пачала сваю работу з таго, што разаслала ўсім пісьмы-просьбы выказаць свае прапановы, якія трэба ўлічыць у новым статуце СП.

Спынюся на тым новым, чаго не было ў ранейшым статуце.

У артыкуле 2 першага раздзела сказана, што СП БССР уваходзіць у СП СССР на аснове федэратыўных сувязей... Гэта новае. Тут улічаны перспектывы нашай федэрацыі.

Статут устанаўлівае прынцып роўнасці членаў СП незалежна ад знаходжання на адміністратыўных пасадах ці ў выбраных органах.

Новае і вельмі важнае — і пра цэнзуру сказана. СП прызнае свабоду творчасці несумяшчальнай з любой формай цэнзуры, за выключэннем абмежаванняў, што тычыцца ваеннай і дзяржаўнай тайны, прапаганды таго, што забаронена заканадаўствам.

Больш пашыраны правы і самога СП і яго членаў. Напрыклад, адзначаецца, што СП супрацоўнічае з беларускімі пісьменнікамі і выдаўцамі, якія жывуць і за межамі СССР. Далей, што важна, член СП мае права ўстанаўліваць прамыя, мінуючы УААП, сувязі з выдавецтвамі і выдаўцамі зарубежных краін. Ён можа пасылаць туды свае рукапісы.

Новае ў статуце — і пра выбар старшыні праўлення СП і сакратароў. Яны цяпер будуць выбірацца на альтэрнатыўнай аснове і знаходзіцца на гэтай пасадзе не больш двух тэрмінаў.

Наконт старшыні праўлення. Многія лічаць, у тым ліку і прававая камісія, што гэта пасада зусім лішняя, і яе трэба ліквідаваць. Павінны быць, як у многіх рэспубліках, першы сакратар і сакратары. Гэта пытанне мы выносім на вырашэнне з'езда.

Зменены і парадак прыёму ў члены СП. Статут надае гэтаму пытанню важнае значэнне. Прад'яўлены больш строгія патрабаванні, павінна быць павышана планка для тых, хто ўступае ў саюз. За апошнія гады, як адзначалася не раз і ў друку, і на сходзе, шмат прынята неперспектыўных для літаратуры людзей. Як вядома, жадаючых уступіць у СП даволі многа, і цягне іх не магчымасць узбагаціць літаратуру, а выгоды, якія ўсё ж ёсць у членаў СП. Прымаюцца пад маркай публіцыстаў і нарысістаў звычайныя журналісты, задужа багата прымаюць перакладчыкаў, літаратурных навукоўцаў. Нямала трапляе і графаманаў. Адбівацца ад іх нялёгка і рэдакцыям, выдавецтвам і СП.

Цяпер прымаць у СП будзе пленум праўлення. Думаю, што гэта пойдзе на карысць літаратуры. Не так даўно адзін з нашых аўтарытэтных пісьменнікаў пасля пасяджэння прэзідыума, на якім прынялі касяк новых членаў, сказаў, што ў СП лягчэй уступіць, чым у саюз паляўнічых. Таварыш гэты, думаю, мае рацыю.

На вырашэнне з'езда ставіцца пытанне, як называць наш кіруючы орган — прэзідыумам ці сакратарыятам, як у СП РСФСР. Калі — сакратарыятам, то ўсе яго члены будуць называцца сакратарамі, і ў нас іх будзе чалавек трыццаць.

## Рада
## Саюза пісьменнікаў Беларусі

Вячаслаў АДАМЧЫК
Серафім АНДРАЮК
Рыгор БАРАДУЛІН
Раіса БАРАВІКОВА
Лявон БАРШЧЭЎСКІ
Васіль БЫКАЎ
Янка БРЫЛЬ
Дзмітрый БУГАЁЎ
Васіль ВІТКА
Анатоль ВЯРЦІНСКІ
Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ
Юрка ГОЛУБ
Сяргей ГРАХОЎСКІ
Анатоль ГРАЧАНІКАЎ
Генрых ДАЛІДОВІЧ
Леанід ДАЙНЕКА
Генадзь ДЗМІТРЫЕЎ
Аляксей ДУДАРАЎ
Вольга ІПАТАВА
Алесь ЖАМОЙЦІН
Алесь ЖУК
Анатоль ЖАЛЯЗОЎСКІ
Сяргей ЗАКОННІКАЎ
Васіль ЗУЁНАК
Віктар КАЗЬКО
Віктар КАВАЛЕНКА
Уладзімір КАЛЕСНІК
Віктар КАРАМАЗАЎ
Аляксей КАРПЮК
Анатоль КЛЫШКА
Анатоль КУДРАВЕЦ
Мікола КУСЯНКОЎ
Алег ЛОЙКА
Хрысціна ЛЯЛЬКО
Пятрусь МАКАЛЬ
Адам МАЛЬДЗІС
Мікалай МАТУКОЎСКІ
Нічыпар ПАШКЕВІЧ
Пімен ПАНЧАНКА
Уладзімір ПАЎЛАЎ
Яраслаў ПАРХУТА
Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ
Алесь ПІСЬМЯНКОЎ
Мікола ПРАКАПОВІЧ
Іван ПТАШНІКАЎ
Алесь РАЗАНАЎ
Барыс САЧАНКА
Юрась СВІРКА
Янка СІПАКОЎ
Максім ТАНК
Васіль ХОМЧАНКА
Кастусь ЦВІРКА
Іван ЧЫГРЫНАЎ
Іван ШАМЯКІН



Рэпліка з залы (А. Дудараў).



У перапынку паміж пасяджэннямі (В. Вітка, Я. Брыль і М. Танк)

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

### Пасяджэнне аргкамітэта

Адбылося пасяджэнне аргкамітэта па правядзенні Свята славянскага пісьменства і культуры ў г. Мінску.

Сакратар аддзялення грамадскіх навук АН БССР М. Бірыла, які ўзначальвае групу падрыхтоўкі і правядзення пленарнага пасяджэння па пытаннях гісторыі славянскага пісьменства і культуры, паведаміў, што на пасяджэнні выступяць 265 дакладчыкаў, у тым ліку 120 чалавек з Мінска. Канферэнцыя адбудзецца 25 мая, уступным словам яе адкрые віцэ-прэзідэнт АН БССР І. Навуменка. Удзельнікі міжнароднай навуковай канферэнцыі «Славяне: адзінства і разнастайнасць» будуць працаваць у 7 раздзельных секцыях.

Намеснік міністра культуры БССР У. Рылатка, які з'яўляецца кіраўніком рабочых груп падрыхтоўкі свята, расказаў удзельнікам аргкамітэта аб планах правядзення свята, сцэнарных планах мерапрыемстваў, планах знаходжання ў Беларусі афіцыйных дэлегацый і гасцей рэспублікі.

Рэдактар газеты «Звязда» У. Наркевіч расказаў прысутным аб падрыхтоўцы спецыяльнага выпуска газеты да свята, а дырэктар РНМЦ культуры А. Лягенчанка пазнаёміў з планам работы прэс-цэнтра.

Вёў пасяджэнне старшыня аргкамітэта, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР М. Дземянцей.

Іншыя матэрыялы да Свята славянскага пісьменства і культуры — на стар. 11.

### Чарговы нумар «Нашага слова»

У другі раз прыйшоў да чытача бюлетэнь Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны «Наша слова». Адкрываецца ён партрэтам Ф. Багушэвіча, выкананым у 1946 годзе мастаком П. Сергіевічам, і вядомымі словамі Мацея Бурачка.

У нумары — вершы М. Танка, М. Маляўкі, Г. Тумаша, У. Пецюкевіча, творы членаў школьнага літаратурнага гуртка «Праменьчык» з Маладзечна; «Думкі ўроссып» Б. Сачанкі, выказванні пра беларускую мову Т. Канвіцкага і Н. Рандаў.

Чытач знойдзе таксама матэрыялы пад рубрыкамі «Закону аб мовах — жыць і дзейнічаць», «Культура мовы», «У пошуках ісціны», «З нататніка мовазнаўцы», «Перагортваючы даўнія выданні»...

### «Тэатральная вясна» ў Рызе

З 20 па 30 красавіка сталіца Латвіі прымала традыцыйны тэатральны фестываль рэспублік Прыбалтыкі і Беларусі «Прыбалтыйская тэатральная вясна», удзел у якім бралі таксама госці са Швецыі.

Спектакль Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы «Страсці па Аўдзею» прыязна сустрэла фестывальная публіка. Журы адзначыла прызамі рэжысёра В. Раеўскага, мастака Б. Герлавана, акцёра Г. Аўсяннікава.

Лепшым спектаклем фестывалю названа пастаноўка «Чатыры дні ў чэрвені» Р. Стапранса (рэжысёры К. Аўшкапс і В. Ветра, латышскі Мастацкі тэатр). Адзначаны дзве акцёрскія работы — П. Будрыса (Алканасіс са спектакля «Голад» паводле К. Гамсуна, літоўскі Маладзёжны тэатр) і Я. Лутсепа (XX са спектакля «Эмігранты» С. Мрожака, эстонская «Студыя Старога горада». За арыгінальны рэжысёрскі дэбют узнагароджаны Ц. Граўжыніс («Голад»), а за рэжысёрскі пошук — Ю. Рыйніекс («Псіхічная атака» паводле А. Чака, Ліепайскі драматычны тэатр).

# Нацыянальная самасвядомасць беларусаў: ДЭГРАДАЦЫЯ І АДРАДЖЭННЕ

**Леанід ЛЫЧ,**
доктар гістарычных навук

## 6. МОВА—ПАДМУРАК НАЦЫЯНАЛЬНАЙ САМАСВЯДОМАСЦІ

У самы адказны для беларускай нацыі час ёй асабліва будуць патрэбны палітыкі вышэйшага рангу, усім сэрцам адданыя роднаму краю, якім некалі быў старшыня ЦВК БССР А. Р. Чарвякоў. Валодаючы смеласцю і ўменнем прадбачыць ход падзей, ён, не зважаючы на страшэнную разруху пасля першай сусветнай і грамадзянскай войнаў, істотны размыў нацыянальнай самасвядомасці беларусаў пасля шматвяковай палітыкі іх паланізацыі і русіфікацыі, не спалохаўся праз газету «Савецкая Беларусь» ад 23 чэрвеня 1923 г. з такімі словамі звярнуцца да людзей: «...настаў момант, калі трэба ажыццявіць карыстанне беларускаю моваю ў нашых дзяржаўных установах». На першы погляд можа здацца дробяззю пачуць з вуснаў буйнога дзяржаўнага дзеяча слова «мова», але менавіта яна стала галоўным звяном беларусізацыі, узняла на небывалую да гэтага вышыню нацыянальную самасвядомасць беларускага народа. І цяпер, калі яна апусцілася да пагражальнага ўзроўню, палітычны дзеяч павінен беспамылкова вызначыць шляхі яе адраджэння і смела весці па іх масы, пакуль у душы беларусаў не вернецца, трывала не ўсталюецца нацыянальны гонар.

Высокая ступень сённяшняй дэнацыяналізацыі беларусаў — гэта ёсць ні што іншае, як вынік рэзкага абмежавання сацыяльных функцый іх роднай мовы, якая, як справядліва сцвярджае савецкі філосаф Г. О. Зіманас, «любімае стварэнне кожнага народа, крыніца нацыянальных пачуццяў, аб'ект любові нацыі, яе гордасць»[1]. А гэтага ж якраз нам і не ставала доўгі час. Яшчэ зусім нядаўна сярод беларусаў куды лягчэй было знайсці суперінтэрнацыяналіста альбо нацыянальнага нігіліста, чым чалавека з нацыянальна высокай самасвядомасцю. І ўсё гэта ад тых шкодных заган, якія параджалі і параджаюць дэфармацыі ў моўным развіцці нацыі.

За апошняе пяцідзесяцігоддзе мы ў пытаннях мовы з надзвычай вялікім крэнам падпарадкоўвалі нацыянальнае інтэрнацыянальнаму і зусім заканамерна ў такой сітуацыі прыйшлі да таго, што ад роднай мовы адбілі ледзь не ўвесь беларускі народ. Яна пакуль што і цяпер знаходзіцца ў такім стане, што нельга спыняцца перад прыняццем любых практычных захадаў, абы толькі выратаваць яе ад поўнай пагібелі. І вельмі правільна, што ў гэтай экстрэмальнай сітуацыі адзіным сродкам пазбегнуць такой нацыянальнай трагедыі палічылі наданне беларускай мове статуса дзяржаўнай, як гэта робіцца ва ўсіх цывілізаваных народаў. Было б, вядома, проста блюзнерствам перад сваёй нацыяй не адважыцца на такое. На вялікае здзіўленне былі і такія, не выключаючы палітыкаў, вучоных, хто нагамі і рукамі ўпіраўся супраць аб'яўлення беларускай мовы дзяржаўнай, зусім не прапануючы ў замен чагосьці кардынальнага ў мэтах яе выратавання. Думаецца, не толькі сённяшнія, але і будучыя пакаленні зробяць правільную выснову з такіх паводзін: хто быў супраць дзяржаўнасці беларускай мовы як сродку адраджэння і росквіту апошняй і не высоўваў нічога слушнага, той, хацеў таго ці не, садзейнічаў далейшай дэградацыі нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, а гэта значыць і іх знікненню як самабытнага этнасу.

**Магчыма, хтосьці з палітычных дзеячаў, вучоных маюць у сваім арсенале нейкія іншыя рычагі адраджэння беларускай нацыі, я ж не бачу лепшага і больш надзейнага сродку для гэтага, акрамя істотнага павышэння прэстыжнасці роднай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. І тое, што ў нас прыняты Закон аб мовах у БССР, згодна з якім беларускай мове надаецца статус дзяржаўнай, можа разглядацца як сведчанне правільнага разумення схільнымі да цвярозага мыслення дзяржаўнымі дзеячамі яе вырашальнай ролі ў лёсе беларускай нацыі. Гэта разуменне стане яшчэ больш глыбокім, калі яны пакажуць сябе—а займаемыя пасады садзейнічаюць гэтаму—актыўнымі змагарамі за праводзенне закона ў жыццё. Практыка засведчыла нямала выпадкаў, калі нават самыя найлепшыя савецкія законы заставаліся толькі на паперы. Няма гарантыі, што так не здарыцца і з Законам аб мовах у БССР. Таму нацыя больш за ўсё аддасць належнае не тым, хто яго прыняў, хоць і гэта вельмі важны гістарычны крок у яе жыцці, а тым, хто бездакорна, з поўнай адказнасцю перад будучымі пакаленнямі распачне ажыццяўляць яго на практыцы.**

**Перабудова стварае добрыя ўмовы, каб мэтанакіравана і смела рабіць захады, якія садзейнічаюць усебаковаму развіццю народаў, росту іх этнічнай самасвядомасці. Усякага роду шаблонам і трафарэтнасці абвешчана непрымірымая барацьба. «Сацыялізм,— пісаў М. С. Гарбачоў,—наогул не будзе мець ніякіх перспектыў, калі мы не створым умоў для рэалізацыі творчых, духоўных сіл кожнай асобы і ўсяго народа, для праяўлення талентаў, здольнасцей і прадпрымальнасці ва ўсіх галінах дзейнасці». Выкараненне ж з іх за апошняе пяцідзесяцігоддзе беларускай мовы зрабіла велізарныя пласты яе носьбітаў амаль зусім няздольнымі штосьці вартае рабіць для сваёй нацыянальнай культуры, больш таго, нават разумна выкарыстоўваць яе патэнцыял у сваіх інтарэсах. Адсюль невядомая раней бездуxоўнасць, падзенне сацыяльнай актыўнасці, рост прастытуцыі, злачыннасці, алкагалізму, наркаманіі і іншых негатыўных з'яў у грамадстве.**

**Адарваныя ў выніку істотных хібаў у рэгуляванні міжнацыянальнымі адносінамі, моўнымі працэсамі ад свайго роднага слова многія беларусы павінны былі стаць і сапраўды сталі абыякавымі, чэрствымі да сваіх духоўных традыцый. Справа дайшла да таго, што ў разліку на аднаго чалавека мы цяпер выпускаем літаратуры на нацыянальнай мове ў некалькі разоў менш за астатнія нацыі, імя якіх носяць саюзныя рэспублікі. Што ж датычыць выкарыстання такой літаратуры, дык, думаю, што паказчыкі будуць яшчэ больш нізкія. Усё гэта сведчанне таго, што без вяртання ў грамадскае жыццё роднай мовы беларусаў нельга ўсур'ёз спадзявацца на якія-небудзь пазітыўныя зрухі ў іх нацыянальнай самасвядомасці. Калі не адбудуцца карэнныя змены, яна стане яшчэ больш разбалансаванай.**

Нярэдка ў публікацыях па міжнацыянальных адносінах і асабліва па пытаннях мовы папярэджваюць: у імя дружбы народаў не надумайце надаць хоць трохі прыярытэту культуры, мове карэннай, асноўнай нацыі, назва якой увасоблена ў найменні дзяржаўнага ўтварэння. А ці правільна гэта? Думаю, што не. На сваёй этнічнай тэрыторыі карэнная нацыянальнасць з'яўляецца законнай наследніцай і прадаўжальніцай гістарычнай, духоўнай спадчыны, што склалася тут і, можа, нідзе больш не існуе ў свеце. Знікненне яе — гэта збядненне шматмерных здабыткаў, духоўнага патэнцыялу чалавецтва ўсёй зямной цывілізацыі. Таксама непажаданы страты каштоўнасцей прадстаўнікоў неасноўных нацый і народнасцей на зямлі карэннага насельніцтва, аднак такія страты не ідуць ні ў якае параўнанне з занядбаннем культуры карэннай нацыі. Ці ж, скажам, сувымерна паміж сабой страта культуры і мовы карэннага насельніцтва Беларусі са стратай культуры і мовы на яе тэрыторыі рускімі, палякамі, украінцамі, яўрэямі і ўсімі іншымі прадстаўнікамі нацый, у якіх ёсць свае ўласныя дзяржаўныя ўтварэнні, дзе якраз і вырашаецца лёс гэтых этнасаў? Са стратай беларускай культуры і мовы ў іх родным краі, лічы, што ім нідзе больш не захавацца на планеце Зямля, чаго, аднак, не адбудзецца ад знікнення культур і моў прадстаўнікоў іншых народаў, што жывуць тут разам з беларусамі. Але лепш, яшчэ раз паўтаруся, каб нам не давялося мець справы з заняпадам культуры ні беларусаў, ні прадстаўнікоў іншых нацый, бо і ў апошнім выпадку наш край істотна збяднее, не будзе такім прывабным. Так што не варта баяцца ў межах разумнага, дапушчальнага аддаваць пэўны прыярытэт карэннай нацыі ў справе яе культурнамоўнага развіцця, да чаго абавязвае само гістарычнае прызначэнне яе на сваёй уласнай тэрыторыі. Я думаю, што на нас не пакрыўдзяцца прадстаўнікі ніводнай з нацый і народнасцей, калі мы на гэтай тэрыторыі зробім мову карэннай нацыянальнасці не толькі юрыдычна, але і фактычна мовай дзяржаўнай, перавядзём на яе навучальна-выхаваўчы працэс ва ўсіх тыпах навучальных устаноў, г. зн. узвядзём яе ў такі ранг, на якім знаходзяцца мовы руская, украінская, польская, яўрэйская, літоўская, латышская, армянская, грузінская і г. д. на тэрыторыях пражывання іх асноўных носьбітаў.

Тое, пра што даводзіцца гаварыць, можа разглядацца не больш як прапісная ісціна. Але ж нягледзячы на ўсё гэта ў час абмеркавання праекта Закона аб мовах у Беларускай ССР, колькі было выказана думак, што самым разумным для рэспублікі было б наданне дзяржаўнай роўнасці ўсім нацыянальным мовам і асабліва рускай. Не сумняваюся, што людзі ў такіх разважаннях часта зыходзілі з самых, што называецца, інтэрнацыяналістычных пазіцый, але што мы будзем рабіць, калі з факта прызнання роўнасці беларускай і родных моў прадстаўнікоў розных нацыянальнасцей, якія жывуць у нас, паступіць нават самая дробязная просьба: пісаць шыльды на будынках адміністрацыйных устаноў, заводаў і фабрыкаў і на іх мовах? Ці ўмесціцца ўсё гэта на іх фасадах? А яшчэ ж складаней будзе задаволіць моўныя прэтэнзіі прадстаўнікоў нашых паважаных нацыянальных меншынстваў у больш важных пытаннях. Таму проста на сто працэнтаў перакананы, што адчыняць, да прыкладу, на Беларусі універсітэты, інстытуты для прадстаўнікоў кожнай нацыі, як гэта нам належыць зрабіць для карэннага насельніцтва, надаць некаторым іх мовам нароўні з беларускай статус дзяржаўнай, зусім не ўяўляецца магчымым і не абумоўліваецца патрэбамі іх духоўнага развіцця.

Натуральна, сацыяльныя функцыі мовы карэннага насельніцтва ў сферы кіравання, народнай асветы, асабліва яе вышэйшых звёнах, культурным жыцці павінны быць у нашым краі непараўнальна больш шырокія, чым у моў прадстаўнікоў іншых народаў, што тут жывуць. У пытаннях мовы ў цяперашніх беларусаў, як народа з нізкім узроўнем нацыянальнай самасвядомасці, верх будзе браць вузкі практыцызм, і таму да таго часу, пакуль яго мова не стане асноўнай у дзейнасці ўсіх сфераў грамадскага жыцця, адносіны да яе вельмі мала палепшацца з боку карэннага насельніцтва рэспублікі. Вось таму асобы, якія ў адказе за ход удасканальвання міжнацыянальных адносін у рэспубліцы, не маюць права супакойвацца на тым, калі ўдасца ўмацаваць пазіцыі беларускай мовы ў якойсьці адной ці некалькіх сферах грамадскага жыцця, зрабіць яе рабочай, душэўна блізкай толькі для нейкіх паасобных катэгорый людзей. Паколькі творцам мовы з'яўляецца народ, дык трэба імкнуцца да таго, каб яна становілася арганічна патрэбнай усім яго пластам. Чым больш людзей будзе прафесійна карыстацца беларускай мовай, тым больш у яе будзе шанцаў на дынамічнае развіццё і выжыванне ад кантактаў з іншымі мовамі.

**Галоўнай арэнай нашага змагання за родную мову павінен стаць горад, які паводле свайго нацыянальнага складу ўжо даўно стаў пераважна беларускім. Пераўтварэнне беларускай нацыі на яе сучасным этапе гісторыі з вясковай у гарадскую— гэта заканамерная для кожнага цывілізаванага грамадства з'ява. Рыхтаваць глебу пад беларускую мову ў гарадах трэба неадкладна, паколькі сёння яшчэ тут жыве шмат яе носьбітаў— ураджэнцаў вёскі, якія маюць павагу і пэўную ступень ведаў па матчынай мове. У іх сем'ях і дзеці выгадаваны ці гадуюцца не вельмі адарванымі ад духоўных каштоўнасцей роднай зямлі. Улічваючы існуючую сітуацыю, трэба ўсімі сіламі і сродкамі дапамагчы сённяшняму беларусу-гараджаніну як мага глыбей усвядоміць сваю гістарычную місію ў захаванні і прымнажэнні духоўнага нацыянальнага скарбу, які ствараўся і назапашваўся на працягу шматвяковай творчай дзейнасці многіх пакаленняў нашых супляменнікаў.**

**Калі пра гэтую місію мы пераканаўча раскажам беларусу-гараджаніну, ён ніколі не пажадае заставацца ўбаку ад нацыянальнага адраджэння. Толькі той, хто не жадае гэтага, не бачыць, як у значнай частні сённяшніх грамадзян адбываецца паварот да роднай культуры і мовы. Пачутае—няхай сабе яшчэ і вельмі рэдка — беларускае слова многія ўспрымаюць як нейкую ўзнагароду, штуршок не быць абыякавымі да яго. І тут няма нічога дзіўнага. Народ з году ў год разумнее, усё больш задумваецца пра сваю перспектыву. А тое, што беларуская мова не можа моцна аваладаць душой гарадскіх жыхароў, стаць паўсюдна чутнай, можна растлумачваць толькі рамкамі яе ўжывання ў сферах асветы і культуры, справаводстве партыйных, савецкіх, гаспадарчых і грамадскіх арганізацый. Не будзем забывацца, што і ўпадак старабеларускай мовы менавіта пачынаўся з паступовай страты ёю пасля Люблінскай уніі 1569 года дзелавога характару, г. зн. выключэння з палітычнай і эканамічнай сфер. Наданне на зямлі беларускай статуса дзяржаўнай польскай мове стварыла спрыяльныя ўмовы, каб на ёй загаварылі беларусы, літоўцы і іншыя прадстаўнікі народаў гэтага краю. І першым паказаў у гэтым прыклад горад, бо і ў той час ён быў месцам канцэнтрацыі адміністрацыйных і судовых органаў, гандлёвых арганізацый, устаноў культуры і асветы. Калі грамадскае жыццё сучаснага горада мы зробім нацыянальна-беларускім, яго жыхары без усялякага прымусу пацягнуцца да роднага слова, сцвярджаючы гэтым самым, што і ім уласціва пачуццё нацыянальнай самасвядомасці.**

Існуе вельмі вялікая небяспека ў тым, калі мерапрыемствы ў галіне моўнай палітыкі звядзём толькі да таго, каб даць беларусу самыя элементарныя веды па яго роднай мове — на ўзроўні не больш як звычайных сямейна-бытавых зносін. Пры такіх акалічнасцях родная мова ў вуснах беларусаў будзе вызначацца нязразвітасцю і беднасцю, выклікаць насмешкі нават з боку яе законных носьбітаў ці людзей іншых нацыянальнасцей. Тады ўжо наўрад ці можна будзе якімі-небудзь сродкамі падтрымаць яе існаванне ў грамадстве. Не сакрэт, што карыстанне такой прымітыўнай мовай і ў нейкіх абмежаваных сферах зносін будзе стрымліваць і само духоўнае развіццё беларусаў. Абгрунтоўваючы ідэю савецкага двухмоўя, лічу, вельмі слушна сфармуляваў сваю думку К. Х. Ханазараў: «Ці ж незразумела, што, грэбуючы ведамі адной з дзвюх моў і асабліва нацыянальнай, чалавек збядняе сябе, абмяжоўвае свой кругагляд, свае магчымасці ў справе культурнага росту, актыўнага ўдзелу ў жыцці масаў сваёй нацыі, адрываючыся ад гэтых масаў»[1].

Калі палітычныя дзеячы беларускага народа ўсур'ёз задумаюць паклапаціцца пра адраджэнне яго нацыянальнай самасвядомасці, яны павінны мець дакладнае ўяўленне аб узаемаадносінах беларускай мовы і рускай як сродку міжнацыянальных, міжрэспубліканскіх зносін. У інтарэсах сапраўднага інтэрнацыяналізму руская мова ў нашай краіне не можа прэтэндаваць на большае. Наданне ж рускай мове статуса агульнадзяржаўнай для ўсіх саюзных рэспублік пры паралельным выкананні функцый дзяржаўнай іх нацыянальнымі мовамі непазбежна будзе весці да выцяснення апошніх з усіх сфераў грамадскага і прыватнага жыцця. Пры такіх акалічнасцях руская мова ў канчатковым выніку прывядзе да таго, чаго не ўдалося пазбегнуць ад распаўсюджвання ў сярэднія вякі латыні ў краінах пражывання «варвараў»: выцяснення з ужытку іх родных моў. Цяперашні ўзровень нацыянальнай самасвядомасці савецкіх народаў нізашто не дазволіць ім прымірыцца з такой стратай.

Мову патрэбна шанаваць так, як першабытныя людзі шанавалі вогнішча, бо добра разумелі, што са знікненнем яго далейшае жыццё немагчыма. Не будзе і нас, калі не ўшануем родную мову. Калі палала вогнішча, чалавек мог заставацца на нейкі час і без яды, але ўсё ж жыў. І цяпер мы зведваем і надалей будзем зведваць вострую патрэбу ў розных прадуктах харчавання, што не прывядзе да пагібелі. А вось як страцім родную мову, ніщто і ніхто не ўратуе нашую нацыю ад немінучай смерці. Засяроджваю ўвагу на гэтым толькі таму, што сярод значных пластоў беларусаў з прычыны істотных памылак у рэгуляванні міжнацыянальнымі працэсамі вельмі шырока распаўсюдзіўся вірус

[1] Зиманас Г. О. Развитие и сближение наций в условиях строительства социализма и коммунизма. Автореферат докт. диссерт. М., 1970. С. 33.

[1] Ханазаров К. Х. Сближение наций и национальные языки в СССР. С. 193.

(Працяг на стар. 6—7).

мяжы нашай Бацькаўшчыны з суседняй Польшчай. Усведамленне, што ад пільнасці нясення службы залежыць спакой на роднай зямлі, будзе абуджаць у салдата пачуццё адказнасці перад сваім народам, садзейнічаць росту нацыянальнага гонару. З мясцовай моладзі павінны фарміравацца і войскі Міністэрства ўнутраных спраў БССР з тым, каб увесці і ў іх беларускую мову ў якасці асноўнай у салдацкім жыцці, службовым справаводстве. Пры такім падыходзе да камплектавання вайсковых фарміраванняў нам удасца не толькі павысіць нацыянальную самасвядомасць маладых пакаленняў беларусаў, але і ў значнай ступені пазбегнуць розных негатыўных з'яў у адносінах паміж салдатамі, зрабіць для дзяржавы намнога меншымі выдаткаванні на ўтрыманне арміі, а для бацькоў — для паездкі ў вайсковыя часці, дзе служаць іх дзеці. Пры станоўчым вырашэнні пытання са стварэннем у рэспубліцы нацыянальных вайсковых фарміраванняў узнікне магчымасць паўней украініць беларускі матэрыял і ў дзейнасць Беларускай ваеннай акругі, якую, як мне здаецца, яшчэ ніколі не ўзначальваў прадстаўнік карэннага насельніцтва нашага краю. Вось вам і суверэнасць беларускага нацыянальна-дзяржаўнага фарміравання?!

Вырашэнне ўнутраных спраў з нацыянальным адраджэннем шмат у чым залежыць ад таго, якія ў нас будуць кантакты з беларусамі, што жывуць у іншых рэгіёнах Савецкага Саюза. А іх жа там парадку двух мільёнаў! Да нядаўняга часу практычна такія кантакты зусім адсутнічалі. І не дзіва, што многія адарваныя ад дому беларусы неўзабаве нават мянялі свой статус этнічнага паходжання. Сярод жа такіх здаралася шмат студэнтаў, якія пазней станавіліся буйнымі спецыялістамі і вучонымі, дзяржаўнымі, партыйнымі і ваеннымі дзеячамі, надаючы гэтым самым нейчай нацыі вялікі гонар. У 20-я гады бягучага стагоддзя мы былі куды больш уважлівымі да сваіх суплеменнікаў, пра што, да прыкладу, сведчыць дзейнасць у Маскве Цэнтральнага бюро пралетарскага студэнцтва Беларусі і Цэнтральнага кіраўніцтва зямляцтваў, якія мелі свой часопіс «Чырвоны сьцяг» (выходзіў у Менску). Апошнім жа часам у нас нічога падобнага не робіцца.

**Можна разлічваць, што ў далейшым беларусаў яшчэ больш апынецца па-за межамі сваёй этнічнай тэрыторыі. Падставы для гэтага я бачу ў цяжкіх выніках чарнобыльскай катастрофы, што будуць штурхаць нашых людзей да адлучэння ад роднага кута. Таму клопат аб нацыянальна-культурным развіцці беларусаў, што жывуць не на зямлі продкаў, а ў асяроддзі іншых народаў, набываюць у наш час надзвычай важнае значэнне. Пажадана спыніць тэндэнцыю няўмольнага скарачэння ўдзельнай вагі адарваных ад Бацькаўшчыны беларусаў, якія не прызнаюць сваю мову роднай. Магчыма, стварэнне таварыстваў беларускай мовы ў іншых рэспубліках і дапаможа нам хоць трошкі паўплываць на адносіны яе носьбітаў да роднага слова продкаў. А на сёння ў гэтым плане ступень дэфармацыі нацыянальнай самасвядомасці, як у беларусаў па-за родным домам, рэдка назіраецца сярод якіх-небудзь прадстаўнікоў іншых народаў, якія пакінулі сваю этнічную тэрыторыю. Не надта прыстойнае стаўленне беларусаў, што не жывуць разам з намі, да сваёй мовы, не можа адмоўна не адбіцца на паказчыку валодання ёю ўсёй сумарнай колькасцю нашай нацыі ў межах краіны: у 1979 годзе ён быў на 7 працэнтаў ніжэй, чым у 1970 годзе. Калі і надалей так будуць ісці справы, дык няцяжка зразумець, якая трагедыя чакае нашу мову ўжо на старце трэцяга тысячагоддзя.**

Яшчэ больш падстаў маюць крыўдаваць на нас суплеменнікі, што апынуліся па-за межамі СССР. Амаль пачыста не прызнаўшы беларускую эміграцыю, мы зрабілі значную частку яе няўстойлівай і ў палітычных і ў культурных адносінах. Той, каго ў нас часта незаслужана называлі ворагам, і сапраўды мог стаць ім у час суровых выпрабаванняў. Шмат хто з тых, каго мы ўзвялі ў такі зневажальны ранг, магчыма, з-за крыўды не стаў актыўным прыхільнікам роднай культуры ў далёкім ад Бацькаўшчыны краі. Адсюль прычына, чаму многія асобы беларускай эміграцыі ў адрозненне ад рускай, украінскай ці польскай не маюць такой цягі да роднай культуры, адмаўляюцца ад сваёй нацыянальнай прыналежнасці. Ёсць нямала выпадкаў, калі беларусы нават у першым пакаленні цалкам раствараюцца ў асяроддзі гэтых блізкіх ім супольнасцей людзей.

Цяпер, калі мы так заклапочаны пераводам нацыянальнай самасвядомасці беларусаў на трывалы грунт, патрэбны рэзкія перамены нашых адносін да сваіх замежных суродзічаў. Варта нават ісці на самыя цесныя і шырокія кантакты з тымі, хто ўжо ў другім ці трэцім пакаленнях з'явіўся на свет удалечыні ад зямлі сваіх продкаў. Галоўнае толькі, каб яны адчувалі этнічную прыхільнасць да гістарычных каранёў старэйшых пакаленняў беларускай нацыі. Нам цяпер не трэба баяцца знаёмства з любой беларускамоўнай літаратурай, што выходзіць за межамі роднага краю. Мы ж людзі адукаваныя, з трывалымі сацыялістычнымі поглядамі, у стане крытычна разабрацца, а ў неабходных выпадках і паправіць у чымсьці сваіх замежных супляменнікаў, калі яны памыляюцца, няправільна асвятляюць тыя ці іншыя падзеі. Этнічная агульнасць беларусаў незалежна ад месца пражывання дапаможа пераадолець шмат якія канфлікты і непаразуменні, якія мелі месца ў далёкім і блізкім мінулым, павінна рабіць самы вырашальны ўплыў на нашыя сённяшнія ўзаемаадносіны. Максімум цывілізацыі і культуры, узаемапавагі — вось галоўны напрамак жыцця ўсёй беларускай супольнасці планеты Зямля.

**Здаецца, такія прыкметы ўжо назіраюцца. Ёсць яны і ў дзейнасці добраахвотных таварыстваў беларускай мовы. Узнікненне іх і па-за межамі рэспублікі востра ставіць на парадак дня стварэнне нейкага каардынацыйнага цэнтра з мэтай усемагчымай дапамогі ім. Яго няма. Даецца ў знакі беларуская звычка: пазніцца, калі справа датычыць нацыянальных інтарэсаў. Трэба прадумаць—і прычым без уласцівага нам прамарудквання,—як правесці на Беларусі шырокі прадстаўнічы форум беларусаў, што жывуць у іншанацыянальным асяроддзі, абавязкова запрасіўшы сваіх супляменнікаў з еўрапейскіх краін, далёкай Канады, ЗША, Бразіліі, Аргенціны, Аўстраліі, каб сумесна разгледзець усе найважнейшыя пытанні, звязаныя з нашым нацыянальна-культурным адраджэннем.**

**Праблемы, праблемы, праблемы...**

О дарагі мой народ! Я цалкам падзяляю твой складаны лёс, бачу, як ты моцна занепакоены сваім сённяшнім днём, без належнай упэўненасці пазіраеш у заўтра, бо не ўсё ведаеш, што трэба рабіць, каб яно было радасным і шчаслівым. І ўсё ж не такім змрочным было ўсё наша мінулае і не такім бесперспектыўным павінна здавацца наша будучае. Ці ж не можаш ты ганарыцца, што няскораным прайшоў праз многія нялёгкія выпрабаванні і застаўся жывым, маеш права называцца роўным сярод роўных у сям'і савецкіх народаў? А ты ж, відаць, ведаеш, колькі засведчаных гісторыяй народаў і плямён з іх высокай культурай і цікавым жыццём не ўцалелі да нашых дзён, сталі мёртвымі. І сышлі яны з гістарычнай сцэны не праз стыхію прыродную, а былі знішчаны больш моцнымі фізічна і больш вялікімі колькасна народамі ці папалі пад гвалтоўную асіміляцыю, хаця не ўступалі, а, наадварот, часта пераважалі іх па сваім развіцці. Цябе ж, мой народзе, не спасцігі такі жахлівы лёс, хаця і не раз стаяла рубам пытанне быць ці не быць табе сярод жывых. І заставаўся ты жывым толькі таму, што не разгубіў да канца сваю этнічную, нацыянальную самасвядомасць. Шануй жа яе і надалей, калі не хочаш без пары зрабіцца нябожчыкам сярод сучасных жывых народаў, якія, не зважаючы на ўсялякія перашкоды, настойліва прыкладваюць шляхі да сацыяльнага і нацыянальна-культурнага прагрэсу.

Будзем радавацца, што інтэрнацыяналізацыя грамадскага жыцця беларускага народа, з якой так цесна звязаны інтэграцыйныя працэсы ў сферы міжнацыянальных адносін, не прывяла да павальнага распаўсюджвання нацыянальнага нігілізму, які многімі пачаў выдавацца за аб'ектыўную неабходнасць. Наадварот, нават там, дзе здавалася ўжо ледзь не канчаткова была страчана сувязь з гісторыяй і традыцыямі мінулых пакаленняў, у людзей абуджалася цяга да сваіх каранёў. XIX Усесаюзная партыйная канферэнцыя КПСС у рэзалюцыі Аб міжнацыянальных адносінах запісала: «Адбываецца заканамерны рост нацыянальнай самасвядомасці». Гэтае правіла не стала выключэннем і для беларусаў, хоць многім народам яны і ўступаюць па прыхільнасці да сваёй нацыянальнай культуры і асабліва мовы і, бясспрэчна, толькі таму, што не амаль цалкам пазбавілі сацыяльных функцый.

**Як ужо не раз заяўлялася ў партыйных дакументах, штуршок да нацыянальнага абуджэння дала выкліканая перабудовай дэмакратызацыя нашага жыцця. І з гэтым нельга не пагадзіцца, як і нельга пагадзіцца з тым, як усё-такі мы многа губляем ад таго, што значэнне нацыянальнай самасвядомасці пачынаем у поўным аб'ёме разумець толькі на крутых гістарычных пераломах, а не ва ўсе перыяды свайго жыцця. Калі з другой паловы 30-х гадоў заявілі пра сябе масавыя сталінскія рэпрэсіі, пра нацыянальны гонар, гэтую высакародную рысу людзей, зусім не прынята было гаварыць. Затое як шырока і ўзнёсла стараліся выкарыстоўваць пачуццё нацыянальнай самасвядомасці савецкіх народаў у іх барацьбе з ворагам у гады Вялікай Айчыннай вайны. Як вядома, і Янка Купала ў сваім клічы да беларускага народа ў самы адказны для яго лёсу час змагання з фашыстамі зваў не толькі да зброі, але і палічыў патрэбным звярнуцца да сваіх супляменнікаў з такімі палымянымі словамі: «Вышэй будзем трымаць сваю нацыянальную гордасць, беларусы!» Кожнаму з савецкіх народаў імкнуліся тады прыгадаць гераічныя старонкі барацьбы за нацыянальную незалежнасць, напомніць, які ён зрабіў уклад у культурную скарбонку сусветнай цывілізацыі. Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. І. Калінін спецыяльна сустрэўся ў жніўні 1943 года для гутаркі з франтавымі агітатарамі, якія вялі работу сярод салдатаў нярускай нацыянальнасці. Агітатарам з усёй настойлівасцю даводзілася, што быць інтэрнацыяналістам, можна толькі паважаючы кожную нацыю, ставілася ў абавязак працаваць з байцамі нярускай нацыянальнасці на іх роднай мове, выхоўваць нацыянальную гордасць.**

**Як усё гэта не было падобна на тое, што адбывалася ў міжнацыянальных адносінах за некалькі гадоў да пачатку барацьбы з фашызмам! Як усё гэта хутка забылася пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны! І сёння, калі краіна імкнецца хутчэй развязаць марскія вузлы сацыяльна-эканамічных, палітычных, экалагічных і ўсіх іншых праблем, мы рашуча і на ўвесь голас выказваем вялікія спадзяванні на рост нацыянальнай самасвядомасці людзей, ведаючы, калі яны правільна зразумеюць сваю адказнасць за будучае ўласнага народа, зробяць амаль немагчымае для яго выжывання і развіцця.**

Не будзем утойваць, выказваюцца і зусім праціглеглыя думкі пра нацыянальную самасвядомасць. У выступленні першага сакратара ЦК Кампартыі Туркменістана С. А. Ніязава на верасьнеўскім (1989 г.) Пленуме ЦК КПСС па міжнацыянальных адносінах ёсць такія словы: «Сёння ў радзе месц рост нацыянальнай самасвядомасці стаў фактарам, які садзейнічае не збліжэнню, а размежаванню народаў». Ці можа сапраўды здарыцца такое? Я цвёрда кажу: «не», бо нацыянальная самасвядомасць і размежаванне народаў зусім розныя паміж сабою паняцці. Сапраўдная нацыянальная самасвядомасць не можа знаходзіцца ў стане канфрантацыі з інтэрнацыяналісцкай свядомасцю. Чым чалавек больш нацыянальна самасвядомы, тым больш у яго смеласці і жадання ісці на збліжэнне з прадстаўнікамі іншых народаў. Калі б гэта было не так, тады не варта было б імкнуцца да росту нацыянальнай самасвядомасці людзей.

Цяпер уніфікацыя жыцця савецкіх нацый слушна лічыцца тормазам на шляху іх нармальнага развіцця, не прызнаецца за норму ва ўзаемаадносінах паміж этнасамі. Людзі, акрамя прыналежнасці да савецкага народа як велізарнай па сваёй колькасці, шматколернай па нацыянальна-этнічнаму складу чалавечай супольнасці, адначасова хочуць глядзець на сябе як на пэўную самастойную структурную частку гэтай супольнасці. Нацыянальная самасвядомасць для сучаснага культурнага чалавека становіцца не якойсьці пабочнай з'явай, а трывалым атрыбутам яго жыцця. І вельмі важна, што рост нацыянальнай самасвядомасці для абсалютнай большасці прадстаўнікоў таго ці іншага этнасу нічога агульнага не мае, а, наадварот, супрацьстаіць усялякім спробам абсалютызацыі нацыянальнага, праяўлення непавагі да іншых народаў, бо людзі, шчыра любячы сваё, абавязкова паважаюць і створанае іншымі народамі.

**Нам, беларусам, не трэба ва ўсім, у тым ліку і ў мове, быць рыхтык такімі, як родныя нам паводле шматлікіх параметраў рускія, украінцы, палякі і іншыя славянскія народы. Нацыянальна-спецыфічнае заўжды павінна быць прыярытэтным у нашым жыцці, чым толькі мы і зможам сцвердзіць сваю адметнасць сярод нацый і народнасцей сусветнай цывілізацыі, застацца ў ёй пэўным этнасам, а не нейкай бесструктурнай масай людзей, якія толькі ў стане колькасна папаўняць сабою іншыя народы, што не падаюцца асіміляцыі, захоўваюць сябе як самабытныя нацыянальныя супольнасці. Толькі этнічная шматварыянтнасць такіх супольнасцяў на планеце зробіць жыццё ёй змястоўным і прыгожым.**

**Найпрасцейшай, але вельмі важнай формай праяўлення нацыянальнай самасвядомасці людзей з'яўляецца вызначэнне сваёй нацыянальнасці пры запаўненні розных дакументаў. Аддадзены сваім продкам, смелы і рашучы чалавек заўжды правільна запіша сваю нацыянальнасць, калі нават наперад ведае, што з прычыны розных абставін гэта можа адмоўна паўплываць на яго службовы рост, а ў горшым выпадку і выклікаць ганенні з боку дзяржаўных органаў, якія праводзяць шавіністычную палітыку.**

Я асабіста не падзяляю думку некаторых аўтараў аб адмаўленні ўказваць у асабістых дакументах нацыянальную прыналежнасць чалавека. Мы не толькі не выйграем, а, наадварот, моцна прайграем, садзейнічаючы гэтым самым усталяванню ў людзей погляду на сябе, як на нешта безнацыянальнае, бясформеннае, ад чаго ўжо застанецца толькі адзін крок да бясслаўнага касмапалітызму. На даным этапе развіцця цывілізацыі не павінна быць безнацыянальных асобаў нават і ў выпадку заблытанасці іх этнічнага паходжання з-за таго, што яны нарадзіліся ў змешаных сем'ях. Для аднясення сябе да той ці іншай нацыі ў кожнага індывіда ёсць нямала іншых падстаў, акрамя факту паходжання, і такі выбар абавязкова варта рабіць, каб не знаходзіцца ў стане бесструктурнай людской масы. Паколькі суб'ектам гісторыі, асноватворнай формай існавання і развіцця грамадства з'яўляецца нацыя, кожны чалавек павінен быць свядома нацыянальным, глядзець на правы заліčаць сябе да пэўнага этнаса, як на падараваную самім лёсам святыню.

У выніку адсутнасці звестак аб нацыянальнасці той альбо іншай асобы, нежадання апошняй паказаць яе ці па іншых прычынах могуць здарацца самыя кур'ёзныя выпадкі, хаця б і такі, як залічэнне ў беларусы людзей, якія не маюць нічога з імі агульнага паводле свайго этнічнага паходжання. Так, у Беларускую Савецкую Энцыклапедыю патрапіў як беларускі жывапісец Юдаль Моўшавіч Пэн, яўрэй па нацыянальнасці, пераважная частка твораў якога менавіта прысвечана розным бакам жыцця сваіх супляменнікаў. Ці ж не крыўдзім мы гэтым самым яўрэяў, калі іх выдатнага жывапісца перадаём у сям'ю культурных дзеячаў іншай нацыі?

Быць безнацыянальным — гэта значыць страціць усякую сувязь з мінуўшчынай, адмовіцца ад нацыянальных традыцый, пакінуць лічыць сябе адказным за лёс уласнага этнаса. Правільна зразуметая прыналежнасць да той ці іншай нацыі, і звязаны з гэтым клопат аб яе будучыні могуць з'явіцца магутным фактарам, — з дапамогай якога людзі становяцца здольнымі шырока разгарнуць стваральную творчую дзейнасць на карысць свайго народа. Чалавек ва ўсіх справах не можа кіравацца толькі глабальнымі сацыяльна-эканамічнымі, палітычнымі фактарамі, жыць агульнадзяржаўнымі інтарэсамі шматнацыянальнай краіны, але і павінен адчуваць нейкую больш лакальную адказнасць за лёс толькі таго этнасу, да якога ён залічвае сябе. Людзі, якія захавалі зусім заканамерную для любога цывілізаванага грамадства павагу да сваіх нацыянальных каранёў, заслугоўваюць вялікай пашаны, павінны ва ўсім падтрымоўвацца, калі размова ідзе аб задавальненні іх разумных нацыянальных патрэб. Кансалідацыйныя нацыянальныя працэсы ніколі не супярэчылі інтэрнацыянальнаму інтарэсу, калі яны вынікалі з унутраных патрэб таго ці іншага этнасу. Практычна мы яшчэ вельмі мала выкарыстоўваем наяўны патэнцыял савецкіх нацый, а ўжо ёсць і такія асобы, што заклікаюць зусім адмовіцца фіксаваць у пашпарце ці іншых дакументах сваю нацыянальную прыналежнасць. А такая ж фіксацыя, як няцяжка зразумець, даволі надзейны сродак «прымкнуць» чалавека да той ці іншай нацыянальнай супольнасці, не даць яму застацца без роду і племені. У адваротным выпадку нам пагражае пераўтварэнне нашага шматнацыянальнага грамадства ў штосьці бесструктурнае. Відаць, не выпадкова, прыхільнікамі зрабіць ужо сёння нашае грамадства безнацыянальным выступаюць пераважна людзі, якія па розных прычынах апынуліся ўбаку ад тэрыторыі пражывання іх нацыі, згубілі ўсялякую сувязь з ёю. Пры дасягненні належнай гарманізацыі міжнацыянальных зносін такая адарванасць ад сваёй нацыі не будзе фарміраваць у яе прадстаўнікоў абыякавых адносін да вызначэння ўласнай этнічнай прыналежнасці, не з'явіцца перашкодай, каб стаць нацыянальна самасвядомым і тым, хто не жыве на зямлі сваіх прабацькаў.

Ідэал будучага народаў — высокая нацыянальная самасвядомасць. У гэтым мне бачыцца найважнейшая перадумова іх далейшага прагрэсіўнага развіцця, усталявання сапраўды гуманістычных міжнацыянальных адносін на планеце.

Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ

# ПРАРОК ДЛЯ АЙЧЫНЫ




## Урывак з драмы пра Скарыну

**Прапаную чытачам штотыднёвіка ўрывак са свайё гістарычнай драмы пра Францішка Скарыну. У падзеях прымаюць удзел кароль Жыгімонт Стары, каралева Бона Сфарца, канцлер Вялікага княства Літоўскага Гаштольд, сын караля Ян і іншыя афіцыйныя асобы і сябры Асветніка.**

**АЎТАР.**

### I

**У цеснай турэмнай камеры—у даўнія часы іх называлі вузілішчам—на драўлянай лаве, прыкаванай да сцяны, абшчапіўшы галаву рукамі, сядзіць вязень. Замест вопраткі на небараку лахманы. Здалёк гучыць сумная-сумная песня. Лязгаюць запоры. Адчыняюцца дзверы. Уваходзіць вартаўнік. Ён прыносіць ваду і хлеб і моўчкі падае вязню. Той моўчкі бярэ прынесенае, з удзячнасцю схіляе галаву. Есць няспешна, з павагаю да вады і хлеба. Вартаўнік назірае за ім.**

ВАРТАУНІК. Чы пан зна цэнэ хлеба?

СКАРЫНА. Так, пан ведае цану хлебу...

ВАРТАУНІК (**праз паўзу**). Валацуга?..

СКАРЫНА. Валацуга... ды яшчэ які...

ВАРТАУНІК. Далёканька ж цябе занесла, нябога...

СКАРЫНА. Мяне яшчэ не так заносіла...

СКАРЫНА. Бадай што трэба...

ВАРТАУНІК. Тут і сумнявацца няма чаго, бо затаўкуць... Хочаш анекдот?.. Не бойся, не пра караля з каралеваю...

СКАРЫНА. Калі не пра караля, то хіба што...

ВАРТАУНІК. Быў у нас такі Янка — ілгаў, — не давядзі бог. Яму ўжо не тое што суседзі, родныя дзеці не верылі. Дык прыходзіць ён аднойчы да свайго дзядзькі, а той і кажа: салжы, пляменнічак, толькі гладка, — авечку дам. — Няма, адказвае, часу ілгаць, — бяры, дзядзька, венікі і прыходзь у лазню. — Прыйшоў дзядзька з венікамі, а лазня, вядома, не топленая. (**Весела рагоча**). Я тут усякіх нагледзеўся, але, калі шчыра, — ты мне даспадобы. Люблю вясёлых.

и другoлюбство без лести. и вси иные добрые нравы якобы со источника оттоль походять. Музыка і певницы якобы сокровище всих скорбов, всякие немощи, духовный и телесные, уздравляють, душу и смыслы освещають, гнев и ярость усмиряють, мир и покой чинять, смуток и печаль отгоняють, чювствие в молитвах дають, людей в приязнь зводять, ласку і милость укрепляють, бесы изгоняють, ангелы на помощь призывають...

**Вартаўнік садзіцца на лаўку, доўга маўчыць. Відаць, што словы Скарыны ўразілі яго.**

ВАРТАУНІК. Я таксама іншы раз спяваю... як вып'ю. Занятак у мяне, братачка, такі, што нікому добраму не пажадаеш... Бывае, што і вінаватых шкада, а не вінаватых яшчэ больш шкада. А пачым...

ВАРТАУНІК (**збянтэжана**). Як сам?!

СКАРЫНА. Ну, не адзін, вядома, — з сябрамі, з таварышамі...

ВАРТАУНІК. Дык ты мо і сам чытаць умееш?!

СКАРЫНА. Я і пісаць яшчэ ўмею. (**Смяецца.**)

ВАРТАУНІК. Акрамя смеху?..

СКАРЫНА. Магу пакляcціся...

ВАРТАУНІК. Перакcціся!

**Скарына хрысціцца.**

Я разумею, калёсы там зрабіць, хамут ці барану... А чаму гэта менавіта ты за кнігі ўзяўся?..

СКАРЫНА. А больш не было каму.

ВАРТАУНІК. Як гэта не было? Манахі гэтым у Полацку спрадвеку займаліся. Іх гэта справа... і тут у Познані.

ВАРТАУНІК. Выходзіць, пабачыў свету?

СКАРЫНА. Пабачыў, хоць і не так многа, як бы хацелася...

ВАРТАУНІК. І дзе ж цябе яшчэ нялёгкая насіла?

СКАРЫНА. Калі было мне гадоў 14, занесла ў Кракаў да палякаў, а як споўнілася 17, падаўся я ў Капенгаген да датчан, пасля 22-х апынуўся сярод італьянцаў у Падуі, адтуль накіраваўся ў Прагу да чэхаў, у 27 вярнуўся дамоў, потым занесла мяне ў Вітэнберг да немцаў, у Кёнігсберг да прусакаў, а зараз, як бачыце, у Познань зноў да палякаў. Між іншым, Маскву таксама не абмінуў...

ВАРТАУНІК (**з зайздрасцю і недаверам**). Палётаў, голуб!..

СКАРЫНА. Палётаў бы яшчэ, ды крылы звязаны...

ВАРТАУНІК (**нечакана**). І ўсюды краў?

СКАРЫНА (**здзіўлена**). Чаму краў?..

ВАРТАУНІК. Каб папрасіць, трэба ж ведаць і па-нямецку, і па-дацку, і пачэшску! А італьянцы?!.

СКАРЫНА. Я яшчэ магу прасіць па-руску, па-грэчаску, па-яўрэйску і на... латыні...

ВАРТАУНІК (**з недаверам**). Траплялiся мне прахвосты, а такіх, як ты, яшчэ не было!

СКАРЫНА. І не будзе!.. Дакладна ведаю — у гэтым стагоддзі не будзе. А мо і ў наступным не народзяцца...

ВАРТАУНІК. Але ж ты нарадзіўся?..

СКАРЫНА. Я апярэдзіў час... Гадоў гэтак на сто-паўтараста.

ВАРТАУНІК. Прахвост няшчасны!..

СКАРЫНА (**без крыўды, нават з усмешкай**). Памыляешся, шаноўны. Перад табою чэсны і... вельмі шчаслівы чалавек...

ВАРТАУНІК. Блазнаваты ты, а не шчаслівы. І ўпякуць цябе паны суддзі за валацужніцтва туды, дзе ты яшчэ не быў...

СКАРЫНА. Мяне не за валацужніцтва, мяне за даўгі ўпякуць.

ВАРТАУНІК. І многа ты напазычаў?

СКАРЫНА. Кажуць, нібыта 206 коп грошаў.

ВАРТАУНІК (аж прысеў). Колькі?!.

СКАРЫНА. 206 коп.

ВАРТАУНІК. Дык гэта ж столькі, колькі і ў Лазара з Мойшам не будзе!

СКАРЫНА. Будзе!.. Калі з мяне суд спагоніць, то ў Лазара і Мойшы будзе больш якраз на 206 коп.

ВАРТАУНІК (**з іроніяй**). А ты, часам, не Радзівіл будзеш? Ці мо сам Сапега?..

СКАРЫНА. Бяры вышэй!

ВАРТАУНІК. Дык жа нікуды браць... вышэй.

СКАРЫНА. Сапраўды, вышэй нікуды...

ВАРТАУНІК. Ілгаць, братка, таксама трэба ўмець...

**Друкуючы гэтыя фрагменты з новай гістарычнай драмы пра Францішка Скарыну, мы віншуем Алеся Лявонцьевіча Петрашкевіча з 60-годдзем з дня нараджэння і зычым яму далейшых поспехаў у жыцці і творчасці.**

СКАРЫНА. Дзякуй на добрым слове.

ВАРТАУНІК. Лжы на здароўе — у мяне ўсё роўна авечкі няма. А хлеба дабаўлю.

СКАРЫНА. Шчыра дзякую.

ВАРТАУНІК. Дзякуй на зуб не пакладзеш.

СКАРЫНА. Многа есці шкодна.

ВАРТАУНІК. Сказаў бы нехта іншы, можа б, я і паверыў.

СКАРЫНА. Ты мне павер—я лекар.

ВАРТАУНІК. Можа, ты яшчэ поп ці ксёндз? Тыя таксама посты хваляць.

СКАРЫНА. Я і не поп, я і не ксёндз, хоць нейкае дачыненне да царквы і паствы маю... І, можа б, ты да кашталяна турмы схадзіў і сказаў яму, каб ён мне маю Біблію вярнуў. Скажы, з богам захацеў даўжнік-бадзяга пагаварыць.

ВАРТАУНІК. Там будзе відаць... А малаком я з табою падзялюся. Мне мае мальцы вечарам яшчэ прынясуць. Харошыя ў мяне мальцы растуць... што папольску, што па-нашаму сякуць — аж ад зубоў адскоквае.

СКАРЫНА (**нечакана**). На польцы ажаніўся, а сам з Полацька будзеш?..

ВАРТАУНІК (**насцярожана**). А табе скуль ведаць?!

СКАРЫНА. Хлопцаў мальцамі называюць толькі на Полаччыне. Дзе ні быў —і ў Гародні, і ў Навагародку, у Нясвіжы, Міры, Слуцку, Клецку, Мазыры, Тураве, — толькі «хлопцы». А ў Полацьку — «мальцы».

ВАРТАУНІК. А мальцы, яны і ёсць мальцы. Хлопцы —то ад халопаў. А каму халопам быць ахвота?

СКАРЫНА. Я і пра нятопленую лазню з авечкаю ў Полацьку чуў. Землякі мы, выходзіць, з табою, служывы.

ВАРТАУНІК (**адчужана, адступаючы да дзвярэй**). Хопіць языком мянціць! А то ты да мяне і ў сваякі напросішся. Пры службе я—разумець трэба, і палёгкі не чакай. Палёгку суд дае, а я па-чалавечы паспачуваць магу. І граху ў тым не бачу. Якія б яны ні былі, а ўсе людзі-чалавекі. (**Забраўшы конаўку, выходзіць. Грымяць запоры.**)

СКАРЫНА (**задуменна**). Усе людзі-чалавекі... Адкуль жа тады здрада, вераломства, ліхаімства, ілжывасць?.. Сам, сваёю рукою ў закон каралеўскі і вялікакняжацкі першым артыкулам запісваў аб адказнасці за клеветы і агаворы. І тым не менш у турме не паклёпнік, а я, Францыск, сын Скарынін... у якасці валацугі, што збег ад даўгоў, якіх ніколі і ні ў кога не пазычаў. О, свет! О, людзі-чалавекі... Хіба не для вас законы ў душах вашых і на паперы суць па бозе напісаны для паспалітага дабра?! (**Зноў чуе тую ж песню.**)

**Святло згасае.**

### II

**Сцэна асвятляецца. У дзвярах стаіць вартаўнік.**

ВАРТАУНІК. Спяваеш, няшчасны?..

СКАРЫНА (**больш сам сабе, чым субяседніку**). В певнице ест справедливость, ест чистота, духовная и телесная. Там ест наука всякое правды. Там мудрость и разум совершенный. Там ест милость

спрабуй разбярыся, як каго судзіць, калі суддзі і то іншы раз не могуць. Вось ты, голь перакатная, а як цябе судзіць? То дурнем прыкідваешся, акалесіцу нясеш, то Біблію просіш. Пра песню сказаў, як іншы і не змог бы. А колькі вас, няшчасных, прайшло перада мною. Я іншы раз і забойцу лічу няшчасным. Хіба чалавек ад радасці забівае? Даносы, злоба, клеветы людзей і з дарогі і са свету зводзяць. Ты вось у песні пра дзяўчыну, што татары звезлі. А іх жа такіх зязюлек нашых тысячы тысячаў чумазлаі ў ясыр зводзяць. А мы замест таго, каб бараніцца сукупна, між сабою тузаемся і адзін другога са свету зводзім. Зямля асірацелая крычыць нема і людцы стогнуць. Усіх шкада... акрамя канакрадаў. Ты, часам, не канакрад?..

СКАРЫНА (**весела смяецца**). Не, я горш...

ВАРТАУНІК. Горш за канакрада ніколі не бывае!

СКАРЫНА. Я бакалаўр, магістр і яшчэ ў навуках вызваленых і лекарстве доктар.

ВАРТАУНІК (**устае з лаўкі, абыякава**). Хопіць брахаць. А калі ўжо брэшаш, то меры не губляй. Я, між іншым, да цябе як да чалавека...

СКАРЫНА. Як да чалавека, кажаш, а Біблію не прынёс...

ВАРТАУНІК (**задзірыста**). Чаму гэта не прынёс? Цэлы стос прывалок. Кашталян адлічыў — аж дваццаць тры кнігі. І яшчэ дзве ўпрыдачу, праўда, адна вельмі маленькая. (Вымае з запазухі «Малую падарожную кніжку», аддае Скарыне).

**Скарына нечакана цалуе вартаўніка.**

СКАРЫНА (**усхвалявана**). Любы ты мой чалавеча!

ВАРТАУНІК (**адчужана, адступіўшы ад Скарыны**). А вось гэтага не трэба! Я табе не любы і ты мне не сваяк. Мне далі — я прынёс... Скажуць адабраць — адбяру.

СКАРЫНА. Дык дзе ж яны... астатнія?!

ВАРТАУНІК (**паблажліва**). Я да цябе не нанімаўся пуп надрываць. Выйдзі і вазьмі. (**Адчыняе дзверы.**)

**Скарына выходзіць пад наглядам вартаўніка і вяртаецца з важкім клункам кніг, завязаных у посцілку. Кладзе яго на лаўку, развязвае рагі посцілкі, гладзіць кнігі рукою, складае ў стос.**

СКАРЫНА (**вельмі пранікнёна**). Якую ж ты мне радасць прынёс, добры Чалавек!

ВАРТАУНІК. А навошта табе столькі?..

СКАРЫНА. Мне не трэба. Я табе хацеў паказаць.

ВАРТАУНІК. Навошта, калі я ў грамаце...

СКАРЫНА. Каб ты паверыў, што я не забойца, не бадзяга, не канакрад... што я не толькі чалавек сумленны, але і не дурны...

ВАРТАУНІК. А пры чым тут кнігі?

СКАРЫНА. Я зрабіў іх уласнымі рукамі. Сам, разумееш?

СКАРЫНА. Справа якраз у тым, што перапісаў я гэтыя кнігі з незразумелай латыні полацькімі словамі, каб дзеткі паспалітыя і людзі простыя чтучы, разумець маглі.

ВАРТАУНІК (**захоплены пачутым**). І даказаць гэта можаш?і.

СКАРЫНА. Магу... ты толькі сядай.

ВАРТАУНІК. Пакуль разам з табою не пасадзілі, пастаю...

СКАРЫНА. Ну пастой сабе. (**Бярэ кніжку, адгортвае старонку: чытае больш па памяці, чым па тэксту.**) В сей кнізе всее прироженое мудрости зачало и конец... В сей книзе вси законы и права, ими же люде на земли справоватися имають, пописаны суть. (**Бярэ другую кнігу.**) В сей книзе вси лекарства, душевные и телесные, зупольне знайдеть. Тут навчение филозофии, добронравное, яко любити бога для самого себе и ближнего для бога, имемы. (**Бярэ трэцюю кнігу.**) Хочеши ли умети граматику или по-нашему говорячи, грамоту, еже добре чести и мовити учить, знойдеши в сей книзе. (**Бярэ чацвёртую кнігу.**) А сия кніга учить з доводом разознати правду от крывды. (**Бярэ пятую кнігу.**) Аще ли же помыслиши умети риторику, еже ест красомовность, чти сию книгу. Восхочеш ли пак учитися музыки, то ест певници, премножество стихов и песний святых по всей книзе ест знойдеши. (**Бярэ шостую кнігу.**) Хошчеш ли считати учить, сию книгу часто чти. (**Бярэ сёмую кнігу.**) Пакли же имаши пред очима науку геометрию, еже по нашему сказуется, землемерение, чти сию книгу. (**Бярэ восьмую кнігу.**) На початку книги сее о сотворении солнца и месяца и звезд. А то суть седм наук вызволеных. Свет убо ест истинный, просвещая всякого человека, грядущего в мир. (**Бярэ дзевятую кнігу.**) Сия же книга наболей о мудрости, о справедливости, о вере, о любви, о надежии, о чистоте, о долготерпении, о смирении, о милостыни, о крепости, о трезвости, о мерности, о почтивости, о щедроте, о тихости, о друголюбии, о науце закона божия, о послушании родителей своих, о справовании самого себе, о товариществе добром и злом, о наших различных многых обычаех и нравех, яко чтути в ней знойдеши.

ВАРТАУНІК. Расповядаеш прыгожа, і паверыць хочацца, а не магу... Не, калі заплюшчыць вочы, можа б, і паверыў, што ты ўсё гэта сам у кнігі ўставіў, а як гляну на тваё рыззё—не магу.

СКАРЫНА (**падае кнігу**). Тады патрымай... пагартай...

ВАРТАУНІК. А што з таго?..

СКАРЫНА. Ну, хоць на выявы паглядзі!.. Я іх сам маляваў і ў кнігі ўставіў. (**Цытуе па памяці**). А для таго, абы братия моя Русь, люди посполитые, чтучи могли лепей разумети...

ВАРТАУНІК (**разглядае малюнкі і з захапленнем, і са здзіўленнем, і са страхам**). А гэта хто?.. Хрыстос ці мо епіскап які?..

СКАРЫНА. Гэта — я...

ВАРТАУНІК. Як — ты?!

СКАРЫНА. А так, як бачыш: уласнай персонаю, толькі не ў лахманах, да якіх у цябе такі недавер, а ў доктарскай мантыі...

ВАРТАЎНІК **(з недаверам і злосцю).** Значыцца, ты яшчэ і святы?!. Каго толькі ў маім вузілішчы не было, а святыя яшчэ не трапляліся... **(Крычыць.)** Прахвост ты, манюка, а не святы! І хопіць мяне ў дурні ўшываць!.. А даведаюся, што канакрад, я цябе, валацугу...

СКАРЫНА. Не гарачыся. Прыгледзься да мяне і маёй выявы. **(Становіцца бліжэй да святла, прыгладжвае валасы, вусы.)** Там жа ўнізе так і напісана: **(цытуе)** проста я, Францишек Скаринин сын с Полоцька, в лекарских науках доктар, разумея сее, иже без страху божия, без мудрости и добрых обычаев не ест мощно, почтиве жити людем посполитым на земли, казал есми тиснути книги сии руским языком наперед ко чти и к похвале светителю, потом людем простым посполитым к пожитку и ко размноженню добрых обычаев, абы научившись мудрости, добре живучи на свете, милостивого бога хвалили...

**Пакуль Скарына па памяці чытае гэтыя словы, вартаўнік збянтэжана глядзіць то на яго, то на выяву ў кнізе.**

ВАРТАЎНІК. Францішак?! Ты той самы Францішак, сын старога купца Лукі Скарыны?!

СКАРЫНА. Той самы, якога ты, Янка, вучыў некалі плаваць, і які чытаў табе на Барысавым камені, што ляжыць на стрыжні Дзвіны, загадкавае і старажытнае: «Господи помози рабу своему Борису».

**Вартаўнік кідаецца ў абдымкі да Скарыны.**

ВАРТАЎНІК **(крыху супакоіўшыся).** Што ж ты мне колькі дзён галаву тлуміш?!.

СКАРЫНА. Прыглядаўся. Мальцоў хацеў тваіх пабачыць. Ці падобныя, думаю, на бацьку ў свае гады...

ВАРТАЎНІК **(вельмі таропка).** Чым дапамагчы?!. А можа, сёння ж і збяжым?! Мне толькі мальцоў папярэдзіць, а мая пані Анэлька за мной на край свету з'едзе. І што мне ў гэтай Познані?!.

СКАРЫНА. Барані божа — ніякіх уцёкаў. Не канакрад жа я, сапраўды!

ВАРТАЎНІК. Дык а што тады?!.

СКАРЫНА. Прынясі мне аркуш паперы, чарніла і пяро. Я напішу ліст аднаму чалавеку, і мярзотнікі, якія адзелі на мяне гэта рыззё, у зубах прынясуць маю доктарскую мантыю!

ВАРТАЎНІК **(узбуджана глядзіць на Скарыну, абходзіць яго вакол, дакранаецца да кніг).** Ай, Францішак! Ай, братачка! Калі ты мне пераказваў знакі з Барысавага каменя, я мог бы здагадацца, што далёка пойдзеш! Але каб у твае гады, жывым... у святыя?! Не знасіць табе галавы...

СКАРЫНА. Мне і кароль пра тое ж казаў.

ВАРТАЎНІК **(збянтэжана).** Як кароль?!.

СКАРЫНА. Быў выпадак.

**Сцэна зацямняецца і асвятляецца зноў. Вузілішча знікае.**

## III

**Тронная зала. На троне кароль Польскі і вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Жыгімонт I Стары. Ён і сапраўды не малады. Яму каля 60-ці. Трымае ён сябе як стары чалавек—зняў чаравікі і падабраў ногі на трон. Карону павесіў на тарчак спінкі трона злева. На такім жа тарчаку справа вісіць «дзяржава». Кароль соладка спіць. Відаць, яму сніцца прыемны сон.**

**Уваходзіць каралева Бона. Надзвычай прыгожая, эфектная і вельмі экспансіўная жанчына. Словам, італьянка. Ёй каля 30-ці, але выглядае намнога маладзейшай. Са здзекам і ироніяй глядзіць на караля, які падцягвае пад сябе ногі і хавае пад пахі рукі, каб цяплей было. Нешта мармыча праз сон.**

БОНА. О, Санта Мадонна! Можа, прачнемся, ваша вялікасць?!. Прэсто! Прэсто!..

ЖЫГІМОНТ **(падхапіўшыся, перапалохана і таропка адзявае чаравікі).** Такі быў сон!.. Такі сон...

БОНА **(адзявае каралю карону, дае ў руку «дзяржаву»).** Ноччу, ноччу, ваша каралеўская вялікасць, будзеце сны глядзець...

ЖЫГІМОНТ. Ноччу, мая слаўная каралева, як і заўсёды, я буду глядзець на вас і не ў сне, а наяву...

БОНА **(сур'ёзна).** Жартаваць, між іншым, таксама будзем ноччу...

ЖЫГІМОНТ **(не расшалопаў здзеку).** Была б ваша воля...

БОНА **(смяецца).** Мая воля будзе... была б ваша моц.

ЖЫГІМОНТ **(разгублена і вінавата).** Ну... тут ужо як выпадзе...

БОНА. О, Санта Мадонна!

**Садзіцца на свой трон, звоніць у званочак. З'яўляецца канцлер Ольбрахт Гаштольд, схіляе галаву.**

БОНА. Яго вялікасць хоча бачыць доктара Скарыну і епіскапа Яна. **(З'едліва.)** Не лішнім і вы будзеце, шаноўны канцлер...

**Пакланіўшыся, канцлер выходзіць і вяртаецца зараз жа са Скарынам і епіскапам Янам. Запрошаныя вітаюць караля і каралеву нізкімі паклонамі. Усе апрануты згодна сваім пасадам і званням. Скарына—у доктарскай мантыі і берэце, які не здымаецца нават перад каронамі.**

ЖЫГІМОНТ. Мы хацелі б прасіць нашых шаноўных канцлера і епіскапа даць магчымасць многавучонаму і знакамітаму мужу Францыску, сыну Скарыніну, пазнаёміцца з апошнім, канчатковым тэкстам Статута Вялікага княства Літоўскага, да якога б ён прыклаў сваю руку і розум, які мы высока цэнім, і менавіта да таго, як вынесці названы збор законаў княства нашага на канчатковае зацвярджэнне сейма.

СКАРЫНА **(нечакана).** Калі ваша вялікасць дазволіць, я скажу, што гэта справа мною ўжэ зроблена ў межах маіх здольнасцей...

БОНА **(здзіўлена).** О-о!

ЖЫГІМОНТ. Але ж Статут, распрацаваны пад апякунствам нашага канцлера **(глядзіць на Гаштольда),** быў толькі ў нас **(глядзіць на каралеву)** і ў епіскапа Яна.

СКАРЫНА. Я не быў бы Францыскам Скарынам, калі б упусціў магчымасць пазнаёміцца і ўнесці сваю лепту ў святую справу вашай вялікасці, якая робіцца на карысць маёй Айчыны.

БОНА **(уедліва).** На карысць нашага каралеўства і нашага княства, хацеў сказаць слаўны доктар.

СКАРЫНА. Менавіта так, мая слаўная каралева...

ЖЫГІМОНТ. Вы наважыліся зараз жа і выказаць свае заўвагі?..

СКАРЫНА. Менавіта так, ваша вялікасць... І з вашага дазволу, не столькі заўвагі, колькі прапановы...

БОНА **(паспешліва).** Мы слухаем вас, доктар...

ЖЫГІМОНТ. Так, слухаем...

СКАРЫНА. Пры ўсёй важнасці і каштоўнасці зробленай работы па абагульненні законаў і прывілеяў нашага княства, Статуту, як мне здаецца, неабходна надаць пэўную стройнасць, як усякаму твору высокай навукі і мастацтва. І перш-наперш прымяніць строгую сістэму і структуру размяшчэння прававых нормаў. А таксама ўключыць тыповыя і абагульненыя нормы, якія ў першую чаргу тычыліся б дзяржаўнай юрысдыкцыі і дзяржаўнага кіравання.

БОНА. Даруйце, але мяне здзіўляе, як вы маглі не заўважыць сістэмы і структуры?!.

СКАРЫНА. Справа ў тым, што я хацеў бы прапанаваць сваю...

БОНА. Наш доктар не памрэ ад сціпласці...

СКАРЫНА **(весела і прыязна).** Мая слаўная каралева, сапраўды я, відаць, памру ад нечага іншага, бо не змагу адмовіцца ад таго, што ўжо ведаю.

БОНА. Пабойцеся бога, доктар, вашы грахі ў яго на ўліку.

СКАРЫНА. Бог і кароль мае найвышэйшыя суддзі.

БОНА. Але ж навошта нажываць сабе ворагаў?

ЯН. Ваша прыязнасць, яснавяльможная каралева, да доктара Скарыны, ведама і богу, і каралю.

БОНА **(са злосцю).** Санта Мадонна!..

ЖЫГІМОНТ **(строга).** Ян! Я не дзеля таго цябе сюды паклікаў...

ЯН **(нібы пакорліва).** Вазлюбіце адзін аднаго як бога нашага і памазаніка яго...

БОНА **(са злосцю).** Амінь! Прэсто! Прэсто, доктар Скарына!

ЖЫГІМОНТ. Гаварыце, доктар!

СКАРЫНА. Раздзелам першым бачу законы, дадзеныя дзяржаве, нашаму Вялікаму княству Літоўскаму, Рускаму, Жамойцкаму і іншыя. Другі раздзел — аб абароне земскай; трэці — аб вольнасцях шляхты. Найгалоўнейшым жа лічу сцвярджэнне суверэнітэту дзяржавы насуперак існуючаму касмапалітызму. А яшчэ адзінства права і прыярытэт пісанага права перад правам звычаёвым. Я запісаў бы літаральна: жадаем і пастанаўляем і на вечныя часы павінна быць захавана, што ўсе нашы падданыя, як бедныя, так і багатыя, якога б саслоўя і становішча яны ні былі, роўна і аднолькава павінны быць судзімы па гэтых пісаных законах; а калі б суддзі судзілі інакш, тс павінны былі б самі быць судзімы. Без гэтага, пан канцлер, сейм зноў адхіліць праект Статута.

БОНА **(з мілай усмешкаю).** А гэта ўжо не вашы турботы, пан доктар!

**Скарына надоўга змаўкае.**

ЖЫГІМОНТ. Гаварыце, доктар.

СКАРЫНА. Таксама ніхто не павінен быць пакараны і прыгавораны за чужое злачынства, а толькі той, хто вінаваты. І ніхто не павінен быць пакараны, калі яго віна не будзе ўстаноўлена судом,— ні жонка за злачынства мужа, ні бацька за злачынства сына, ні сын за бацьку, а таксама ніхто з родзічаў, ні слуга за пана.

БОНА. А пра гэта трэба яшчэ падумаць.

ГАШТОЛЬД. Думаць — не толькі высокае прызванне, але і абавязак дзяржаўцаў.

БОНА **(дзёрзка).** Каралю, як і каралеве, вядомы іх абавязкі!

ЖЫГІМОНТ. Кароль за сябе сам скажа! **(Больш мякка.)** А падумаць—не пашкодзіць.

БОНА. І хоць бы таму, што вядома, як будуць паводзіць сябе бацькі-злачынцы, калі загадзя вызваліць ад адказнасці іх дзяцей...

СКАРЫНА. Тым не менш, час няўмольна патрабуе, яснавяльможная каралева...

БОНА **(з усмешкаю).** Вы многа бачылі і многа ведаеце, доктар, але павучаць караля і каралеву...

ЖЫГІМОНТ. А я, асабіста, люблю паслухаць разумных людзей. Не фальваркам, дзякаваць богу, правім, а каралеўствам.

БОНА. І яшчэ, між іншым, княствам... Вялікім княствам Літоўскім!

ЖЫГІМОНТ **(стрымана).** Калі б я правіў ім між іншым, аднаму богу вядома, пад чыёй рукою яно было б сёння...

ЯН. Ісціна!..

**Бона аж перасмыкаецца ад рэплікі Яна.**

ЖЫГІМОНТ. Гаварыце, доктар...

СКАРЫНА. Я хацеў бы падтрымаць канцлера і ў першую чаргу прапанаваць такі запіс: згодна Статуту яго вялікасць кароль Польскі і вялікі князь Вялікага княства Літоўскага абавязваюцца захоўваць і берагчы цэласць дзяржавы.

ЖЫГІМОНТ. Гэта і так вядома.

ГАШТОЛЬД **(настойліва).** Ваша вялікасць, абставіны ўнутры Каралеўства і Княства, а таксама за яго межамі патрабуюць гэтага запісу. Многа ў чым я мог бы не пагадзіцца з доктарам Скарынам, але толькі не ў гэтым.

БОНА. Дзіўнае аднадушша...

СКАРЫНА **(пакланіўшыся Гаштольду).** Да вышэйсказанага я дадаў бы: мы, кароль Польскі і вялікі князь Вялікага княства Літоўскага, таксама абязуемся і абяцаем, што ў землях Вялікага княства ні мы, ні нашы нашчадкі нікому з чужынцаў не будзем даваць ва ўласнасць і ўтрыманне зямель, замкаў, гарадоў і якіх бы там ні было званняў і чыноў, але толькі мясцовым ураджэнцам тых зямель нашага Вялікага княства.

БОНА. Санта Мадонна! Да гэтага нават пан канцлер не дадумаўся...

ЯН. На гэтым пан канцлер з панам доктарам пасябруюць.

ГАШТОЛЬД. У пана доктара не ўсё так блага, як пану біскупу часам падаецца.

ЯН **(зводзіць на жарт).** Вось бачыце...

СКАРЫНА. А калі б хто-небудзь з падданых збег з нашай дзяржавы ў зямлю нашых непрыяцеляў, то пазбаўляецца свайго гонару, а яго іменне спадчыннае, выслужанае і купленае не пераходзіць ні да дзяцей, ні да родзічаў, а толькі да вялікага князя.

БОНА. Грацые, пан доктар... Грацые!

ЖЫГІМОНТ **(глянуўшы на каралеву).** Разумна!

БОНА. Хоць і не настолькі, каб гэтым захапляцца...

СКАРЫНА. А яшчэ не адбіраць у маёмасных людзей пасад і маёмасці без суда.

ГАШТОЛЬД. І нікому з саноўнікаў нашых не даваць двух пасад.

БОНА. Я і гэта павінна ўзгадняць з вамі?!

ГАШТОЛЬД. Не са мною, але з законам...

БОНА **(амаль крычыць).** Баста! Ніколі!

СКАРЫНА. А яшчэ — публічнасць здзяйснення правасуддзя пры роўнасці бакоў у працэсе і права абвінавачанага на абарону з удзелам адваката.

ГАШТОЛЬД. І ніхто не адказвае за чужую віну.

СКАРЫНА. А каб спыніць паклёпы, даносы і нагаворы, першым жа артыкулам першага раздзела першага кодэкса нашага я запісаў бы на абарону дзяржавы і яе падданых: калі б хто агаворам-паклёпам абвінаваціў каго і абвінавачаны павінен быў бы падлягаць ганьбаванню ці смяротнай кары, ці канфіскацыі маёмасці, ці якому іншаму пакаранню, тады той, хто агаварыў іншага, але не прадставіў доказаў, сам павінен панесці такое пакаранне. Менавіта гэта норма зберагла б не толькі падданых дзяржавы, але і яе гонар паміж дзяржавамі. Аблыжныя даносы і паклёпы вынішчаюць людзей не горш чым войны, паморкі і татарскі ясыр.

Каб залішне не стамляць вашу каралеўскую вялікасць, я змаўкаю.

БОНА **(іранічна).** Мы ўдзячны знакамітаму доктару. Ва ўсякім разе, становіцца зразумелым, чаму шляхта на сеймах ігнаруе волю караля і не прымае Статута... Назавіце мне хоць адну дзяржаву, дзе законы манархаў так зацята адвяргаюцца падданымі ўжо больш за шэсць гадоў?.. Няма такіх дзяржаў!

ГАШТОЛЬД. Але ж не было яшчэ і такіх законаў...

ЖЫГІМОНТ. Канцлер мае рацыю.

БОНА. Якая карысць ад непрынятых законаў?

ГАШТОЛЬД. Законы будуць прыняты, але магнаты і паны рада чакаюць ад нас уступак.

БОНА. Не ад вас, а ад нас!

ГАШТОЛЬД. Яны патрабуюць ад кароны захаваць усе старыя пастановы, а новыя не прымаць без іх удзелу. Паны рада настойвае на літаральным запісе ў Статуце: Вялікі князь абязуецца дзяржаву яго міласці Вялікае княства Літоўскае і паноў раду ні ў чым не прыніжаць... Гэта па меншай меры...

БОНА. Не трэба нас палохаць, канцлер!

ГАШТОЛЬД. Божа нас барані. Але закон пра забарону адабрання зямель, некалі дараваных каралямі Ягелонамі нашым падданым, трэба ў Статут унесці.

БОНА. Я выкупляю каралеўскія землі! Я абурана намёкамі канцлера!

ЖЫГІМОНТ. Канцлер, не намякайце! Што ў вас яшчэ, доктар?

СКАРЫНА. Я далучыўся б да пана канцлера, а ў Статут дадаў бы яшчэ палажэнне, якога чакаюць як магнаты, так і паны рада, пра тое, што ў землях Вялікага княства Літоўскага ні кароль, ні яго нашчадкі нікому з чужаземцаў не будуць даваць ва ўладанне зямель, замкаў, гарадоў і якіх бы то ні было званняў і чыноў, але толькі мясцовым ураджэнцам зямель Вялікага княства.

БОНА. Ці не занадта вы многага хочаце, шаноўны доктар?

ГАШТОЛЬД. Гэтага хоча Вялікае княства!

БОНА. Санта Мадонна!

ЖЫГІМОНТ **(міралюбна).** Дарагі Ольбрахт, не трэба думаць, што наша княства даражэй вам, чым нам.

БОНА. Канцлер з доктарам проста згаварыліся!

СКАРЫНА. Я толькі мушу сказаць, яснавяльможная каралева, што інтарэсы Вялікага княства пацерпяць страты, калі ў Статуце не будуць замацаваны правы і прывілеі не толькі шляхты, але і люду простага.

БОНА. А гэта ўжо нешта зусім новае!.. Нечуванае!..

ЯН **(перапалохана).** Пабойцеся бога, доктар Скарына!

ГАШТОЛЬД. Бог не будзе ў крыўдзе, калі кароль і вялікі князь захаваюць у цэласці вольнасці княжат, панят, шляхціцаў і мяшчан.

СКАРЫНА. І калі мяшчане ўсіх гарадоў будуць адказныя перад судом за раны і забойствы сялян.

ГАШТОЛЬД. Калі закон забароніць няволю, залог і куплю-прадажу хрысціян яўрэямі і татарамі.

СКАРЫНА. І калі ваяводамі будуць адбірацца тайныя корчмы, ад якіх нараджаецца так многа зла на нашай зямлі.

ЯН. Ісціна так!

БОНА. Брава, біскуп! Доктару ўдалося закалыхаць не толькі караля і канцлера, але і вас. А можа, вы ўсе за адно разам з каралём?!

ЖЫГІМОНТ **(іранічна).** Найяснейшая каралева! Ці ж не бачна, як мы аднадушны...

БОНА. Неверагодна! І законы, і вольнасці, і суды—адны для ўсіх: ад князя да селяніна! Нас жа засмяе Еўропа!

СКАРЫНА. Можа і так здарыцца, найяснейшая каралева, што Еўропе ў нас вучыцца давядзецца. Тым больш, што вы даўно дакляруеце стварыць шчаслівае каралеўства па Платонаваму ўзору...

БОНА. Мне шкада вас, летуценнік!

СКАРЫНА. Так, летуценнік. І мой дэвіз—роўная свабода ўсім, агульнае імення ўсіх.

БОНА. Баста! Баста!

ЖЫГІМОНТ. Вы добры і разумны чалавек, доктар Скарына, а таму не знасіць вам галавы...

СКАРЫНА **(праз усмешку).** Адсякаць такую галаву, як мая, ваша вялікасць, сабе ж на страту...

## *Да свята славянскага пісьменства і культуры*

# Тры дні ў маі...

**Як вядома, з 24 па 27 мая ў Беларусі ў рамках мерапрыемстваў, прысвечаных 500-гадоваму юбілею нашага першадрукара, асветніка і вучонага Ф. Скарыны, адбудзецца Свята славянскага пісьменства і культуры. Свята павінна садзейнічаць актывізацыі грамадскага руху, галоўная мэта якога — адраджэнне гістарычнай памяці і народных традыцый, умацаванню інтэрнацыянальнай еднасці славянскіх народаў.**

**Наш карэспандэнт В. Лапцік сустрэўся з намеснікам міністра культуры БССР Уладзімірам РЫЛАТКАМ і папрасіў яго адказаць на некаторыя пытанні.**

**— Як вядома з пастановы рэспубліканскага аргкамітэта па правядзенні Усесаюзнага свята славянскага пісьменства і культуры ў Мінску (яго ўзначальвае Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР М. І. Дземянцей), нас чакае сапраўднае відовішча. Аргкамітэтам утворана ажно 19 груп па падрыхтоўцы і правядзенні розных мерапрыемстваў. Якія, так бы мовіць, сапраўдныя «памеры» свята?**

— Яно будзе вялікае, тэатралізаванае. Мы чакаем прыезду толькі вялікай афіцыйнай дэлегацыі з многіх рэспублік Савецкага Саюза і з-за рубяжа — Балгарыі, Польшчы, Чэхаславакіі. Прадстаўнікоў прэсы будзе каля 30 чалавек. У вялікай навуковай канферэнцыі прымуць удзел каля 200 чалавек. Па папярэдніх падліках, агульная колькасць гасцей перавысіць тысячу чалавек.

**— Уладзімір Пятровіч, вы кіруеце рабочымі групамі, утворанымі аргкамітэтам. Што ўжо зроблена?**

— Мы ўсе мерапрыемствы падзялілі на тры асноўныя блокі. Першы — гэта правядзенне навуковай канферэнцыі. Тут створаны штаб на чале з сакратаром аддзялення грамадскіх навук АН БССР М. В. Бірылам. Зацверджаны план правядзення канферэнцыі, які ўключае 150 дакладаў і вялікую культурную праграму. Другі значны ўчастак работы — падрыхтоўка да свята горада Мінска, якое адбудзецца ва ўсіх яго раёнах. Створаны штабы ў раёнах, распрацаваны і зацверджаны планы работы. Складзены календарныя і рабочыя планы, распрацаваны эскізы друкаванай прадукцыі: запрашэнні, буклеты, праграмы, плакаты і канверты. Размешчаны заказы на значкі і сувеніры, святочныя пакеты і сувенірныя кнігі пра Скарыну, Купалу, наша народнае мастацтва і г. д. Накіраваны запрашэнні афіцыйным дэлегацыям, розным суполкам, установам і грамадскім арганізацыям.

**— Што ж канкрэтна ўбачаць мінчане і госці беларускай сталіцы 24—27 мая?**

— Першы дзень — гэта прыезд і сустрэча дэлегацый, а вечарам у Доме літаратара адбудзецца прэс-канферэнцыя. На наступны дзень шэсць груп афіцыйных дэлегацый накіруюцца да помнікаў Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, М. Горкага, барэльефа Т. Шаўчэнкі, дзе будуць ускладзены кветкі. Пасля дэлегацыі прымуць удзел ва ўрачыстай літургіі ў гонар Кірылы і Мяфодзія на Кафедральнай плошчы. Заўважу, што гэта будзе сумесная літургія з прадстаўнікамі беларускай, рускай і балгарскай царквы. Пасля тут жа, на Кафедральнай плошчы, будзе праведзены мітынг, прысвечаны адкрыццю мемарыяльнай дошкі братоў-асветнікаў Кірылы і Мяфодзія. Яна знойдзе сабе месца на будынку, на месцы якога некалі быў манастыр імя балгарскіх братоў-асветнікаў.

Пасля мітынгу ўсе афіцыйныя дэлегацыі і калектывы накіруюцца да плошчы Перамогі. Па дарозе іх будуць сустракаць і вітаць народныя хоры ў нацыянальных строях. Гэта масавая працэсія прыме ўдзел у мітынгу, які адбудзецца на плошчы. Мяркуем, што са словам да прысутных звернецца мітрапаліт Філарэт, пісьменнікі С. Законнікаў і В. Распуцін. Вечарам у тэатры оперы і балета адбудзецца ўрачыстае адкрыццё свята.

25 мая ў Доме палітасветы пачнецца міжнародная навуковая канферэнцыя. У гэты дзень да свята ў Мінску будуць адкрыты выстаўкі: славянскай графікі, выстаўка да 45-годдзя Вялікай Перамогі, у Дзяржаўным музеі БССР — беларускія музычныя інструменты. У гэты ж дзень будуць наладжаны прыёмы ва ўсіх творчых саюзах рэспублікі, дзе пойдзе гаворка пра стан нашага мастацтва, пра ролю саюзаў у адраджэнні нацыянальнай культуры. Увечары ў Доме кіно мы ўбачым новы мастацкі фільм «Маці ўрагану» паводле У. Караткевіча, які зняў рэжысёр В. Нікіфараў, сустрэнемся з пастановачнай групай фільма.

**— Праграма такая насычаная, што нічога, пэўна, не застанецца на трэці дзень свята?..**

— Ён будзе таксама багаты на падзеі. Дэлегацыі паедуць у Тураў і Полацк, дзе будуць закладзены помнікі Кірылу Тураўскаму і Сімяону Полацкаму. У гэты дзень пачнецца свята горада-героя Мінска. Госці наведаюць самыя цікавыя мерапрыемствы: кірмаш і свята народнага мастацтва на праспекце Машэрава, у парку імя Я. Купалы і М. Горкага. Вечарам у Белдзяржфілармоніі ўпершыню ў СССР прагучыць араторыя «Кірыла і Мяфодзій» у выкананні сімфанічнага аркестра з горада Шумэн і харавой капэлы імя Р. Шырмы. У гэты ж вечар «Песняры» выканаюць сваю новую праграму «Скарына».

27 мая адбудзецца закрыццё свята, якое пройдзе ў Вязынцы. Яно будзе ў асноўным прысвечана азнаямленню гасцей з нашай фальклорнай спадчынай, аўтэнтычным фальклорам.

# Слова пра «Слова...»

Знамянальныя даты часам сімвалічна збліжаюцца між сабою...

Сёлета ва ўсім свеце будзе адзначацца 500-годдзе з дня нараджэння Францыска Скарыны. Пяць гадоў назад споўнілася 800 гадоў помніку сусветнай культуры «Слову пра паход Ігаравы». У гэтым жа годзе — 190 гадоў з таго часу, як А. Мусін-Пушкін, адкрыўшы спіс «Слова...», выпусціў яго ў Сенацкай друкарні. А ў дадатак да гэтага неўзабаве прыходзіць на беларускую зямлю свята славянскай пісьменнасці.

Збег дат выпадковы, канечне. Але ўсё ж яны ўзаемазвязаны. З далёкіх часоў прыйшло «Слова...», каб уславіць еднасць народаў-братоў. Скарына даў друкаваную кнігу не толькі беларусам, а ўсім усходнім славянам, спрыяў іх далучэнню да вышынь культуры. Свята славянскага пісьменства і культуры ёсць свята, яно — яшчэ адна магчымасць разабрацца, што мы ёсць у гэтым свеце, як жывём і куды ідзём.

Спецыяльных выданняў да Свята як быццам не рыхтавалася, але яны ўсё ж з'явіліся. Маю на ўвазе, прынамсі, кароткі энцыклапедычны слоўнік «Слова пра паход Ігаравы» у літаратуры, мастацтве, навуцы», выпушчаны «Універсітэцкім» выдавецтвам. Яго смела можна паставіць у шэраг такіх энцыклапедычных даведнікаў, як «Янка Купала», «Скарына і яго час» — з той хіба розніцай, што два апошнія проста больш ёмістыя на фактычны матэрыял, прадстаўлены ў іх. Аўтар слоўніка — доктар філалагічных навук М. Булахаў, загадчык кафедры агульнага і рускага мовазнаўства Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага, даўні даследчык «Слова пра паход Ігаравы».

Праца над слоўнікам заняла ў М. Булахава шмат гадоў. У звароце «Да чытача» ён сціпла разглядае сваю работу, як «першую спробу стварэння даведніка толькі аб важнейшых дасягненнях у даследаванні і творчым асваенні твора з 90-х гг. XVIII ст. да нашага часу. бо стварэнне энцыклапедыі «Слова пра паход Ігаравы» — гэта задача калектыўных намаганняў даследчыкаў». М. Булахаў «замахнуўся» на гэтую працу адзін і справіўся з ёю, можна сказаць, выдатна.





Што ж уяўляе сабой гэтае унікальнае выданне? Слоўнік мае гістарычны характар. Адсюль — вычарпальнасць звестак пра тое, як «Слова...» было адкрыта; пра людзей, якія першымі данеслі яго да чытача, даследавалі як літаратурны помнік. У даведніку ёсць таксама звесткі аб дзейных асобах твора, у спецыяльных артыкулах разглядаецца мастацкая адметнасць помніка, гаворыцца і пра іншыя літаратурныя помнікі, што адчулі на сабе ўздзеянне ідэй і матываў «Слова...» Многіх зацікавяць артыкулы-персаналіі, у якіх расказваецца пра даследчыкаў і перакладчыкаў твора, пра мастакоў і кампазітараў, якія ў сваёй творчасці звярталіся да вобразаў «Слова...» і г. д.

Як і трэба было чакаць, у слоўніку багаты беларускі матэрыял, які тычыцца дня ўчарашняга і сённяшняга. Скажам, яшчэ А. Міцкевіч, чытаючы курс славянскіх літаратур у Парыжы, прысвяціў дзве лекцыі «Слову...» Сваю ацэнку помніку даў і У. Сыракомля, які нават заяўляў, што «Слова...» напісана на беларускай мове. М. Багдановіч у 1910 годзе зрабіў вольны пераклад урыўка з твора, напісаў «Песню пра князя Ізяслава Полацкага».

Звесткі, якія прыводзіць М. Булахаў, маюць, як правіла, энцыклапедычны характар. Спасылаючыся на думкі іншых даследчыкаў, ён адначасова выказвае і свае меркаванні, у нечым дапаўняючы папярэднікаў, а ў чымсьці і аспрэчваючы іх развагі.

Асобныя артыкулы досыць разгорнутыя. Скажам, артыкул, прысвечаны Янку Купалу. М. Булахаў паведамляе, што Купала спачатку выканаў празаічны пераклад, які апублікаваў у газеце «Беларусь» у 1919 годзе пад назвай «Аповесць аб паходзе Ягоравым, Ягора Святаслаўлева ўнука Алегава». Гэта быў першы ў савецкую эпоху літаратурны пераклад «Слова...», які «добра адлюстроўваў як яго змест, так і мастацкія асаблівасці». Неўзабаве Купала пераствapыў «Слова...» вершамі, змясціў яго ў газеце «Вольны сцяг» (1921). Аналізуюцца вартасці і гэтага перакладу.

Ёсць артыкул пра Р. Барадуліна, у якім паведамляецца, што пераклад «Слова...», зроблены Барадуліным (дарэчы, надрукаваны ў «ЛіМе» 24 мая 1985 года) стаў другім вершаваным пасля Купалавага. «Пераклад, — піша М. Булахаў,— вызначаецца сэнсавай дакладнасцю і паэтычнай структурай, якая не парушае вобразнай сістэмы арыгінала».

Перакладаў «Слова...» і М. Гарэцкі, апублікаваў яго ў «Хрэстаматыі беларускай літаратуры», выдадзенай у 1922 годзе. Пераклад М. Гарэцкага, заўважае аўтар даведніка, «адносіцца да лепшых перакладаў помніка на славянскія мовы».

Выдатны помнік славянскай пісьменнасці ў розныя гады прыцягвае да сябе ўвагу самых розных даследчыкаў — М. Грынчыка, Э. Гурэвіч, В. Дарашкевіча, Ф. Карскага, М. Ларчанку, Ю. Пшыркова, В. Чамярыцкага і іншых. Пра кожнага з іх расказана ў слоўніку.

Нагадваецца, што адзін з апошніх перакладаў на рускую мову ажыццёўлены нашым земляком І. Шклярэўскім. У артыкуле «Слова...» і мастацкая літаратура» асэнсоўваецца, як помнік уплываў на творчасць пісьменнікаў. У прыватнасці, паведамляецца, што ідэйна-эстэтычнае ўздзеянне «Слова...» адчуваецца ў вершах П. Труса, творчасці А. Куляшова, П. Броўкі, М. Танка, К. Кірэенкі і іншых пісьменнікаў.

Багаты ў слоўніку ілюстрацыйны матэрыял. Сярод ілюстрацый — і творы М. Басалыгі, Е. Лось, Г. Паплаўскага (тут жа — і звесткі пра гэтых творцаў).

Праца М. Булахава — першы, але важкі крок па шляху падрыхтоўкі спецыяльнай энцыклапедыі, прысвечанай «Слову пра паход Ігаравы».

А. ВІШНЕЎСКІ.

## *Ліст у рэдакцыю*

# ІНШАГА ШЛЯХУ НЯМА

Гісторыя паказвае, што дэмакратыя адыгрывае прагрэсіўную ролю пры адной умове: калі ёсць кіруючая меншасць, якая здольна весці грамадства наперад, нягледзячы на супраціўленне большасці. Такіх магчымасцей у нас пакуль што няма. У гэтым лёгка пераканацца, аналізуючы сёлетнія выбары кандыдатаў у дэпутаты. Яны ўваскрашаюць у памяці славутую формулу нашага недалёкага мінулага — «прынята пераважнай большасцю». Але большасцю можна падаўляць не толькі кепскае. Пераважная большасць можа быць і разбуральным натоўпам, а таксама гасіцелем усяго добрага ў яго вытоках.

**Звернемся да нашых «дэмакратычных» выбараў. Уявім, што ў калектыве (цэху завода, брыгадзе калгаса, кафедры або факультэце ВНУ, у аддзеле або ў лабараторыі НДІ і г. д.) называецца ў якасці кандыдата ў дэпутаты прозвішча найбольш чэснага чалавека, здольнага многае зрабіць у Вярхоўным Савеце ў інтарэсах усяго грамадства. Але ён розумам, сумленнем, ініцыятывай і прынцыповасцю часта з'яўляецца бяльмом на вачах пасрэднага калектыву, які жыве па прынцыпе «узяць чым болей, аддаўшы чым меней» пры панаванні ў свядомасці паняцця «абы ціха». У выніку самы дастойны праваліваецца (маўкліва, ціха і тайна) «пераважнай большасцю». Праходзіць шэрасць, здольная сваёй безаблічнасцю, дэмагогіяй або фальшу задаволіць пераважную большасць. Далей. На агульнай канферэнцыі калектыву (завода, калгаса, саўгаса, ВНУ, НДІ і г. д.) сыходзіцца некалькі кандыдатур (дырэктар завода, рэктар ВНУ, прагрэсіўны ініцыятар і названая вышэй шэрасць). Але дырэктар не дагадзіў многім з прысутных сваёй патрабавальнасцю, некаму ён стаў перашкодай у карыслівых памкненнях і развале дысцыпліны. І зноў «пераважнай большасцю» перамагае шэрасць. Такім чынам яна можа дабрацца і да Вярхоўнага Савета. Прыкладаў таму нямала. Прыгадаем хоць бы, з якім трэскам была правалена напачатку на прэзідыуме АН СССР кандыдатура акадэміка А. Д. Сахарава. І калі б не знайшлося ў Акадэміі навук дастойных людзей, то нават такая сусветна вядомая асоба як Сахараў была б раздушана «пераважнай большасцю». Вынік сумны: вялікія спадзяванні народа на з'езды народных дэпутатаў і пасяджэнні Вярхоўнага Савета не апраўдаліся. Напружанасць у грамадстве ўзрасла яшчэ больш, дасягнуўшы ў многім гранічнай рысы паграждальнага развалу з-за адсутнасці кіраўнічай меншасці, здольнай узняць народ са стану «пераважнай большасці» да ўзроўню калектыўнага, стваральнага творцы.**

Выйсце мне асабіста бачыцца ў шматпартыйнай сістэме. Пры яе перамозе дзеянне прынцыпу выпадковасці на выбарах, а тым больш негатыўнай прадузятасці значна паменшыцца — кандыдат будзе вылучацца не асобнымі людзьмі, а групай ідэйных аднадумцаў, здольных адстойваць публічна свае довады. Але і шматпартыйнасць сама па сабе не можа быць панацэяй. У ёй павінна быць закладзена прагрэсіўная аснова — пошук розных шляхоў і метадаў руху да агульнай мэты — інтэлектуальна-дэмакратычнага сацыялізму. Права на кіраўніцтва грамадствам не павінна дамагацца сілай для якой-небудзь асобнай сацыяльнай групы. Яго трэба прадаставіць ад імя ўсяго народа сукупнаму розуму, памножанаму на гуманізм і дзейсны клопат аб захаванні міру і жыцця на Зямлі. Другога шляху проста няма!

**А. САЛАМОНАЎ,**
**доктар тэхнічных навук.**
г. Мінск.

# Спасціжэнне Скарынавай спадчыны

Доўжыцца год па-сапраўднаму шырокага, усенароднага ўшанавання памяці нашага славутага Асветніка, «иже болей избрал оставити в науце и книгах вечную славу и память свою, нежели во тленных сокровищах».

Апошнім часам навукоўцамі шмат робіцца для поўнага і ўсебаковага спасціжэння дзейнасці Скарыны, асэнсавання яго шматграннай творчай спадчыны, выяўлення вытокаў ягонага гуманізму і чалавекалюбства, асвятлення ролі ў кантэксце адраджэння беларускай культуры на пачатку XIX ст. Своеасаблівым падрахункам гэтага, несумненна, стала выданне грунтоўнага энцыклапедычнага даведніка «Францыск Скарына і яго час» (Мн., 1988). Працягам комплекснага вывучэння багатай і разнастайнай спадчыны нашага Першадрукара стала кніга «Франциск Скорина — белорусский гуманист, просветитель, первопечатник».

Адметнасць названай працы ў тым, што пад яе вокладкамі сабраны артыкулы самага разнастайнага характару, аб'яднаныя ў тры тэматычныя раздзелы. Гэта кніга, як заўважыў у прадмове да яе У. Конан, — «комплекснае даследаванне гісторыкаў, філолагаў, філосафаў і кнігазнаўцаў, якія раскрываюць гістарычныя і сацыякультурныя ўмовы дзейнасці Скарыны, яго светапогляд, літаратурна-эстэтычныя і моўныя асаблівасці творчасці». Перад намі — спроба стварыць калектыўны вобраз Скарыны, плён працы многіх скарыністаў.

Паставіўшы мэту з розных бакоў апісаць постаць Скарыны, аўтары зборніка рупліва бяруцца за гэтую справу. Сярод іх вядомыя даследчыкі А. Грыцкевіч, Э. Дарашкевіч, В. Оргіш, Л. Званарова, А. Турылаў, А. Жураўскі, А. Булыка і іншыя.

Чытач з задавальненнем пазнаёміцца са зместам артыкула доктара філасофіі У. Конана, якім адкрываецца другі раздзел кнігі. У ім дэталёва аналізуецца арыгінальная літаратурна-публіцыстычная спадчына Скарыны — **предсловия, предмовы, сказания, послесловия.** Выклікае цікавасць і сцвярджэнне аўтара аб тым, што Скарына ўпершыню ў айчыннай літаратуры распрацоўваў новы жанр — анатацыю да друкаванай кнігі — і дасягнуў у гэтым значных поспехаў. Трэба дадаць, што рамкі скарыназнаўства пашырае і высокакваліфікаванае прачытанне У. Кананам скарынаўскай сімволікі і міфалогіі, якое дапаўняе разважанні на гэтую тэму, зробленыя У. Калеснікам.

У зборніку ўпершыню зроблена спроба правесці цэласны стылістычны аналіз мовы арыгінальных скарынаўскіх твораў, вызначыць прынцыпы адбору Скарынам моўных сродкаў, паказаць, што ў прадмовах і пасляслоўях складваўся і распрацоўваўся своеасаблівы стыль старабеларускай літаратурнай мовы, у якім спалучаліся элементы царкоўнаславянскай і жывой народна - гутарковай стыхій. Дарэчы, гэта яшчэ адно пацвярджэнне таго, што «простая мова» магла з поспехам ужывацца ў такой высокай сферы, як богаслужэнне (Л. Шакун).

Трэцяя частка прысвечана аналізу мастацкіх асаблівасцей кніг Скарыны, іх традыцыям і пераемнасці, бібліяграфічнаму агляду першых даследчыкаў пражскіх выданняў Першадрукара (А. Мыльнікаў); параўнанню ілюстрацый Скарыны і ксілаграфіі еўрапейскіх інкунабул (В. Пуцко). Бібліяграфічнае апісанне вывучэння «Малой падарожнай кніжкі» з айчынных і замежных кнігасховішчаў чытач знойдзе ў артыкуле вядомага маскоўскага кнігазнаўцы Я. Неміроўскага. Свой уклад у стварэнне калектыўнага партрэта беларускага Першадрукара ўносіць і Г. Галенчанка, які грунтоўна, з добрым веданнем матэрыялу разважае пра традыцыі Скарыны ў развіцці брацкага кнігадрукавання і выдавецкай справы на Беларусі ў XVI—XVII стст.

Чытач з задавальненнем прачытае артыкул В. Шматава пра мастацкія асаблівасці скарынаўскіх гравюр, дзе ён разважае аб вытоках Скарыны-ілюстратара, аб асветніцкай, эстэтычнай ролі гравюр, тэхніцы іх афармлення, вольных адносінах нашага Першадрукара да літары Свяшчэннага пісання.

Большасць аўтараў зборніка выявілі глыбокую навуковую эрудыцыю, змаглі паказаць, што Скарына быў тым, хто абагнаў «свой час і чыю самаахвярную дзейнасць не зразумелі ва ўсёй паўнаце ні сучаснікі, ні бліжэйшыя нашчадкі». Разам з тым неабходна заўважыць, што некаторыя артыкулы, змешчаныя ў зборніку, паўтараюць раздзелы даўно выдадзеных работ або публікацый (З. Капыскі, С. Падокшын, В. Яцук і інш.), што не робіць гонару іх аўтарам.

Аздабленне кнігі выканана з мастацкім густам і пачуццём меры. Старонкі зборніка ўпрыгожаны скарынаўскімі гравюрамі. Кніга ўяўляе сабой не толькі навуковую каштоўнасць, але крыніцу ведаў аб Скарыне, яго традыцыях у беларускай і ўсходнеславянскай культурах, дапамагае зразумець вытокі скарынаўскага гуманізму.

**Д. ПАЎЛАВЕЦ.**

г. Гомель.

# Марыя Сяргееўна БЯЛІНСКАЯ

Беларускае тэатральнае мастацтва панесла цяжкую страту. На 84-м годзе жыцця памерла Бялінская Марыя Сяргееўна — народная артыстка БССР, член КПСС з 1947 года, артыстка Беларускага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы.

Марыя Сяргееўна Бялінская нарадзілася ў г. Магілёве ў 1906 г. У 1923 годзе паступіла ў Беларускую тэатральную студыю ў г. Маскве, пасля сканчэння якой працавала ў тэатры імя Я. Коласа, а з 1965 года ў тэатры імя Я. Купалы.

Лірызм, мяккасць, узнёсласць у спалучэнні з драматызмам і глыбокім пранікненнем у сутнасць вобраза былі адметнымі рысамі артыстычнай творчасці М. С. Бялінскай. Сярод яе лепшых роляў — Марына ў п'есе Я. Коласа «Вайна вайне», Таццяна Марыч у п'есе П. Глебкі «Над Бярозаю-ракой», Марыя Аляксандраўна ў п'есе І. Папова «Сям'я», Зіначка ў п'есе Л. Ляонава «У мяцеліцу», Глушачыха ў спектаклі «Людзі на балоце» паводле І. Мележа.

Выканаўчы талент М. С. Бялінскай ярка праявіўся ў класічным рускім і замежным рэпертуары — п'есах М. Горкага, А. Астроўскага, У. Шэкспіра, А. Чэхава, Л. Талстога, М. Гогаля.

Апрача творчай працы, Марыя Сяргееўна Бялінская актыўна ўдзельнічала ў грамадскім жыцці. Яна ўзнагароджана ордэнам «Знак Пашаны», медалямі.

Чалавек вялікай душэўнай цеплыні, сціпласці, Марыя Сяргееўна Бялінская горача любіла тэатр, сумленна і самааддана служыла мастацтву. Светлы вобраз выдатнай актрысы назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**В. А. ПЯЧЭННІКАЎ. Н. М. МАЗАЙ. А. У. РУСЕЦКІ М. І. МІСУНА. В. П. ХОМЧАНКА, Я. К. ВАЙТОВІЧ, М. М. ЯРОМЕНКА. Г. Б. АСВЯЦІНСКІ. З. І. БРАВАРСКАЯ. І. І. ВАШКЕВІЧ. Г. Б. ДАВЫДЗЬКА. І Ф. ЖДАНОВІЧ. М. Г. ЗАХАРЭВІЧ. З. І. КАНАПЕЛЬКА. Г. К. МАКАРАВА, В. М. РАЕЎСКІ, С. М. СТАНЮТА. З. Ф. СТОМА. Б. І. СЯЎКО. В. П. ТАРАСАЎ, Ф. І. ШМАКАЎ.**

# Што могуць рукі

Каля трох гадоў у Наваполацкім дзіцячым садзе № 16 працуе гурток па вырабе самых розных рэчаў: цацак, упрыгожанняў, дэталяў інтэр'ера,— з саломкі, з лёну. Залацістая саломка з элементамі беларускага арнаменту аздобіла, напрыклад, інтэр'еры дзіцячых пакояў, лесвічных клетак, калідора. Але перш чым заняцца гэтай незвычайнай справай, супрацоўнікі дзіцячага сада звярнулі ўвагу на ўласны мастацкі густ: яны пачалі рэгулярна наведваць выстаўкі, атрымліваць кансультацыі ў спрактыкаваных майстроў, вывучаць спецыяльную літаратуру.

Рукі — асноўны інструмент у працы з саломкай. Адчуваць саломку, увішна і спрытна плесці яе, — усё гэта цяпер падуладна рукам выхавацелькі Т. Жарнасек. Авалодаўшы рознымі відамі пляцення, яна праз гурток «Умелыя рукі» імкнецца перадаць свае навыкі ўсім, хто цікавіцца гэтым рамяством. А вынік карпатлівай працы — святочныя дэкаратыўныя пано, што аздобілі сціплую будзённасць памяшкання. Асобныя дэталі рыхтаваліся рукамі выхавацелек І. Ставер, В. Мішынай, Е. Скаўронскай, Ф. Казьянінай, В. Студзянковай, І. Вяль, прачкі Н. Вараб'ёвай.

Выхавацелькі Т. Жарнасек і І. Краўцова, надаючы вялікую ўвагу мастацкай ручной працы, навучылі дзяцей майстраваць з саломкі ды лёну цацкі, сувеніры, аздабляць сурвэткі. Развіваць прыхільнасць да роднае мовы, цікавасць да беларускага народнага майстэрства дапамагае створаны ў садзіку музей-майстэрня народнай творчасці. Тут гадаванцы з задавальненнем майструюць свае вырабы, якія потым скарыстоўваюць у гульнях, дораць меншым, паказваюць на выстаўках дзіцячай творчасці; наладжваюць і продаж на кірмашах. Адзін з такіх кірмашоў праводзіўся ў падтрымку дзяцей Чарнобыля.

Таццяна Аляксандраўна Жарнасек са сваімі выхаванцамі.

Лена Куцергіна і Марына Хамякова.

Тэкст і фота

**А. МАРЦІНКЕВІЧА.**

г. Полацк.

# Загучаў голас Забэйды

Гэтай зімою па першай праграме Усесаюзнага радыё адбылася перадача пра знакамітага беларускага спевака Міхася Іванавіча Забэйду. Упершыню ягоны голас загучаў на ўсю краіну і нават на ўвесь свет. За 45 хвілін эфірнага часу аўтары вобразна расказалі пра жыццё Міхася Іванавіча і далі магчымасць у поўнай меры адчуць усю прыгажосць ягонага голасу. Міжволі падумалася пра тое, што многія людзі чуюць гэты голас упершыню толькі сёння, калі спевака ўжо колькі год няма сярод жывых. Вельмі доўга ў нас не прызнавалі знакамітага земляка, адмаўляліся ад ягонага таленту і майстэрства толькі таму, што лёс змусіў яго калісьці пакінуць радзіму і асталявацца на чужыне.

Міхась Іванавіч Забэйда прайшоў складаны шлях ад звычайнага сялянскага хлопчыка з Пружаншчыны да выдатнага опернага спевака, саліста Ла Скала, якога параўноўвалі з Собінавым. Жывучы далёка ад радзімы, Забэйда ніколі не забываў пра тое, што ён беларус. З любоўю і дасканалым майстэрствам спяваў ён беларускія песні па ўсім свеце, у самых прэстыжных канцэртных залах. Толькі вось на радзіме не ўмелі шанаваць ягоны талент. І па сённяшні дзень не выдадзена ў нас ніводнай пласцінкі Забэйды. А тым часам у Празе, дзе ён жыў і працаваў з 1940 года і да сваіх апошніх дзён, Міхася Забэйду добра памятаюць як таленавітага майстра вакалу. Ягонае імя значыцца ў многіх даведніках.

Праз нейкі час пасля радыеперадачы я атрымала ўсхваляванае пісьмо з Прагі ад Надзеі Кастэцкай. Мы перапісваемся з пані Надзеяй з 1984 года. Менавіта ў той час мне давялося наведаць Прагу, каб вывезці ў Беларусь асабісты архіў Міхася Іванавіча, які ён распарадзіўся пакінуць сваёй радзіме. Там я і пазнаёмілася з сям'ёй Кастэцкіх. Іменна яны ўзялі на сябе клопат захавання і перадачы архіва. Пані Надзея, па паходжанні беларуска з Баранавічаў, і яе муж — Любамір, вядомы чэшскі музыкант са знакамітага квартэта імя Сметаны, былі самымі блізкімі сябрамі Міхася Забэйды. Надзея Кастэцкая і сёння даглядае ягоную магілку, садзіць на ёй кветкі. Тыя нашы дзеячы беларускай культуры, што мінулым летам зрабілі падарожжа ў Прагу па скарынаўскіх мясцінах, мелі магчымасць пазнаёміцца з пані Надзеяй і ўпэўніцца ў яе сапраўднай беларускай гасціннасці і душэўнай шчодрасці.

Надзея Кастэцкая піша ў сваім лісце, што яна там, у Празе, пераключыла сваё радыё на маскоўскую праграму і раптам пачула знаёмы голас. Адразу нават не паверыла, што такое можа быць. А потым з вялікім захапленнем праслухала перадачу і нават паспела пазваніць дзвюм вучаніцам Міхася Іванавіча, каб яны таксама пачулі. Вось радкі з пісьма пані Надзеі: «Як добра, што яшчэ жывуць людзі, якія яго (Забэйду. — Г. С.) памятаюць, якія захавалі пласцінкі з яго маладым голасам! Як выдатна і з любоўю пра яго гаварылі! Я проста плакала...».

З вялікай пашанай і цеплынёй успамінае і сама пані Надзея пра Міхася Іванавіча: «Ён быў вельмі сціплы, вельмі разумны і высакародны чалавек. З яго думкай тут лічыліся ўсе спевакі і прафесары. Яго вучні — народныя артысты — з любоўю ўспамінаюць пра яго. Мы часта разам бывалі ў оперы, на канцэртах. Як прыемна было назіраць, з якой любоўю і павагай падыходзілі да яго ягоныя вучні».

Вось такі водгук знайшла ў далёкай Празе радыёперадача, падрыхтаваная супрацоўніцай музычнай рэдакцыі Беларускага радыё Л. Мітаковіч. Мне здаецца, што гэтая перадача павінна мець водгук і ў нашых душах, каб і мы сёння ўспомнілі добрым словам пра Міхася Іванавіча Забэйду.

1 чэрвеня сёлета спаўняецца 90 год з дня нараджэння спевака. З гэтай нагоды трэба было б ушанаваць ягоную памяць належным чынам.

Ганна СУРМАЧ,
дырэктар ЦДАМЛМ БССР.

# «Няміга» на Няве

Беларускія мастакі ехалі ў Ленінград з хваляваннем. Справа не столькі ў «пачуцці адказнасці перад патрабавальнай публікай». Для нас, сяброў аб'яднання «Няміга-17», выстаўка на Неўскім праспекце, у Доме журналіста — не эпізод, а паэзея. Творчае аб'яднанне прадстаўляла тут сучаснае беларускае мастацтва. Так разумелі гэта ўсе, хто прыйшоў 23 красавіка на вернісаж: гледачы, мастакі, крытыкі, сябры беларускай суполкі ў Ленінградзе.

Выстаўку адкрываюць творы старэйшыны аб'яднання А. Малішэўскага (1921—1989), у ягоных палотнах — традыцыі колераадчування беларускага жывапісу, што ідуць ад нашых абразоў, ад віцебскай школы, ад тых выдатных каларыстаў, якіх не здолеў спляжыць навязлівы псеўдаакадэмізм апошніх дзесяцігоддзяў. Таямнічае Купалле, гуканне вясны, помнікі архітэктуры і прыроды ў работах М. Бушчыка, А. Кузняцова, З. Літвінавай вяртаюць нас да першасных форм народнай культуры. Каларыт гэтых карцін багаты на інтанацыі, жывапісная пластыка адлюстроўвае выдатны мастацкі тэмперамент.

«Тэма нараджаецца жывапісам. Па-за жывапісам успрымання для мяне не існуе», — так С. Кірушчанка вызначыў сутнасць свайго жывапіснага эксперыменту. Не спыняюцца ў сваім развіцці Л. Хобатаў і А. Мацієвіч. Іхнія творы, размешчаныя побач на адной сцяне, прыцягнулі ўвагу стрыманасцю і глыбінёй гамы.

Керамічныя пано Т. Сакаловай зліліся ў суладдзі з карцінамі яе калег. Нацюрморты і кампазіцыі паказалі арыгінальныя магчымасці шамота ў спалучэнні з эмалямі, солямі, каляровымі масамі, глазурамі.

Валерый БУЙВАЛ.

